

# XII З'ЕЗДУ ЎСЕСАЮЗНАГА ЛЕНІНСКАГА КОМУНІСТЫЧНАГА САЮЗА МОЛАДЗІ

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі Савецкага Саюза горача вітае XII з'езд Усесаюзнага Ленінскага Комуністычнага Саюза Моладзі і ў яго асобе ўсіх камсамольцаў і камсамолак, слаўную моладзь нашага мнoганацыянальнага Савецкага Саюза.

Ленінскі камсамол пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі вырасціў і выхаваў мільёны актыўных будаўнікоў комуністычнага грамадства. Гераічнай барацьбой і доблеснай працай на карысць Радзімы камсамол заваяваў усеагульную павагу і любоў савецкага народа.

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі Савецкага Саюза ўпэўнены ў тым, што нашы камсамольцы і камсамолкі і надалей будуць памнажаць слаўныя справы Ленінскага камсамола, аддаючы ўсю сваю энергію і маладыя сілы вялікай справе будаўніцтва комунізма.

Цяпер, ва ўмовах паступовага пераходу ад сацыялізма да комунізма, яшчэ больш узрастае роля камсамола ў справе комуністычнага выхавання моладзі, авалодання асновамі марксізма-ленінізма і свядомага ажыццяўлення ўсеперамагаючага вучэння Маркса — Энгельса — Леніна — Сталіна. Камсамол павінен нястомна выхоўваць савецкую моладзь у духу беззаветнага служэння сваёй Радзіме і адданасці Комуністычнай партыі, у духу непарушнай дружбы народаў СССР, прывіваць моладзі лепшыя якасці савецкіх людзей — любоў да працы, бадзёрасць, бясстрашша, упэўненасць у перамозе нашай справы, гатоўнасць пераадольваць любыя цяжкасці і перашкоды. Абавязак камсамола — усяляк клапаціцца аб тым, каб моладзь пастаянна павышала сваю вытворчую кваліфікацыю, настойліва авалодвала ведамі, дасягненнямі перадавой навукі і тэхнікі і ўмела выкарыстоўваць іх на практыцы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры. Камсамол заклікаиы праяўляць нястомныя клопаты аб фізічнай загартоўцы моладзі, падрыхтоўцы яе да працы і абароны Радзімы.

Важнейшая задача камсамола заключаецца ў тым, каб забяспечыць яшчэ больш актыўны ўдзел камсамольцаў і ўсёй савецкай моладзі ў дзяржаўным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве, ва ўсім грамадска-палітычным жыцці краіны. Асаблівая ўвага моладзі павінна быць сканцэнтравана на далейшым развіцці сацыялістычнай прамысловасці, ажыццяўленні намечанай Партыяй і Урадам праграмы крутога ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі і вытворчасці прадметаў народнага спажывання, на вырашэнні вялікай усенароднай задачы — у бліжэйшыя 2—3 гады ў дастатку задаволіць растучыя патрэбнасці насельніцтва нашай краіны ў таварах народнага спажывання. Камсамол павінен яшчэ шырэй разгортваць сацыялістычнае спаборніцтва, больш праяўляць актыўнасці і ініцыятывы, мабілізаваць сілы савецкай моладзі на ўсемагчымае павышэнне прадукцыйнасці працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Каб паспяхова выканаць сваю ролю памочніка і рэзерва Комуністычнай партыі, камсамолу неабходна пастаянна ўдасканальваць сваю работу. Камсамольскія органы, якія заклікаиы адыгрываць вялікую ролю ў вырашэнні задач, што стаяць перад савецкай моладдзю, павінны рашуча перабудаваць сваю работу, выгнаць з практыкі кіраўніцтва камсамольскімі арганізацыямі канцылярска-бюракратычныя метады, больш займацца канкрэтнай арганізатарскай і выхаваўчай работай сярод моладзі. У цэнтры ўвагі камсамольскіх арганізацый павінны быць жывыя людзі — камсамольцы і савецкая моладзь, пастаянныя клопаты аб іх працы, быце, адукацыі і выхаванні, аб задавальненні ўсё ўзрастаючых запатрабаванняў і інтарэсаў юнакоў і дзяўчат. Для гэтага неабходна няўхільна расшыраць і ўмацоўваць жывыя сувязі з шырокімі масамі моладзі.

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі Савецкага Саюза ўпэўнены, што Ленінскі камсамол і ўся савецкая моладзь, выхаваныя ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, заўсёды будуць у авангардзе дэмакратычнай моладзі, у яе высакароднай барацьбе за мір ва ўсім свеце.

Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі Савецкага Саюза выказвае ўпэўненасць, што наш камсамол, які аб'ядноўвае ў сваіх радах больш 18 мільёнаў маладых будаўнікоў комуністычнага грамадства, і надалей будзе верным памочнікам партыі ў барацьбе за перамогу комунізма, з чэсцю будзе выконваць свой свяшчэнны абавязак перад савецкім народам і сацыялістычнай Радзімай.

Няхай жыве Усесаюзны Ленінскі Комуністычных Саюз Моладзі!

Няхай жыве слаўная савецкая моладзь!

Няхай жыве наша вялікая сацыялістычная Радзіма!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ
САВЕЦКАГА САЮЗА



# XVIII З'ЕЗД КОМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

З гарадоў і вёсак нашай рэспублікі з'ехаліся ў Мінск на XVIII з'езд комсамола Беларусі дэлегаты ад соцень комсамольскіх арганізацый. Юнацкі запал, кіпучую энергію, малады задор прывезлі яны з калгасных палёў, прасторных цэхаў фабрык і заводаў, са светлых аўдыторый і класаў. Гаманлівым натоўпам запоўнілі залу Акруговага дома афіцэраў. Тут з 5 па 7 сакавіка гэтага года дэлегаты з'езда сур'ёзна і па-гаспадарску абмеркавалі пытанні далейшай работы комсамольскіх арганізацый, удзелу моладзі ў новым уздыме сельскай гаспадаркі, прамысловасці, культуры і добрабыту народа.

Лепшых сваіх прадстаўнікоў накіравалі комсамольцы ў сталіцу Беларусі. Паміж дэлегатаў — знатныя звеннявыя, жывёлаводы, старшыні калгасаў, пісьменнікі, вядомыя токары, слесары, рацыяналізатары, студэнты вышэйшых навучальных устаноў.

З'езд заслухаў і абмеркаваў справаздачны даклад ЦК ЛКСМ Беларусі і Цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

Дзелавіта і змястоўна гаварылі дэлегаты з'езда аб недахопах у рабоце, уносілі прапановы, пажаданні, практычныя парады аб палепшанні яе.

У кожным выступленні адчувалася вялікая любоў да сваёй Радзімы, да роднай Комуністычнай партыі і Урада, якія далі нашай моладзі светлае, шчаслівае юнацтва, пад кіраўніцтвам якіх наша краіна ідзе да яшчэ больш цудоўнай будучыні.

З'езд падвёў вынікі работы і накіраваў моладзь на дасягненне яшчэ большых поспехаў у справе ажыццяўлення дырэктыў XIX з'езда Комуністычнай партыі, рашэнняў пятай сесіі Вярхоўнага Совета СССР і вераснёўскага Пленума ЦК КПСС.

З'езд выбраў Цэнтральны Камітэт ЛКСМ Беларусі і Цэнтральную рэвізійную камісію.

Натхнёныя, поўныя рашучасці працаваць яшчэ лепш, раз'ехаліся юнакі і дзяўчаты па месцах, каб там, у калгасах, соўгасах, на фабрыках і заводах, у школах і вышэйшых навучальных установах, прыкласці ўсе свае сілы і здольнасці на дасягненне новых поспехаў у працы.



На здымках. Уверсе: у зале пасяджэнняў XVIII з'езда комсамола Беларусі.
Унізе: дэлегаты XVIII з'езда ЛКСМБ (злева направа) Герой Социялістычнай Працы Іван Сітніца, Герой Социялістычнай Працы Саед Масімаў, вучаніца IX класа 1-й школы г. Магілёва Тамара Шапавалава, сакратар комсамольскай арганізацыі культасветвучылішча г. Магілёва Ольга Краўцова, цялятніца калгаса «Гігант» Бабруйскага раёна Люба Цэд, Герой Социялістычнай Працы Надзежда Філіпава.
Фото Ф. Чэховіча, А. Лукашова, В. Вяхоткі і Ф. Бачылы.


Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
№ 4(13).
Красавік.
1954.




# ПАСЛАНЦЫ

Фота Ф. Чэховіча, А. Лукашова, В. Вяхоткі, Ф. Бачылы, В. Лупейкі і А. Гарэльчыка.

**Камсамольцы і моладзь рэспублікі горача адгукнуліся на заклік Партыі асвоіць цалінныя і аблoжныя землі ў паўночным Казахстане і ў Сібіры. Толькі за 10 дзён у камітэты камсамола паступілі тысячы заяў ад юнакоў і дзяўчат Мінска, Гомеля, Палесся, Віцебшчыны.**

На здымку ўверсе: **камсамольскія пуцёўкі, выданыя Мінскім гаркомам камсамола.**

Справа—**сакратар Сталінскага райкома камсамола г. Мінска А. Бадакоў уручае пуцёўку камсамольцу аўтазавода Міхаілу Стасевічу, які выказаў жаданне ехаць у Казахстан.**



«Комсамольская пуцёўка» — невялічкая пурпуровая кніжачка, ганаровы дакумент, які зараз атрымоўваюць ад Ленінскага камсамола тысячы юнакоў і дзяўчат. Яна раскрыта. Бачыце, камсамолец Яўген Кабанаў выказвае жаданне паехаць на асваенне цалінных і аблoжных зямель. Пуцёўка не адна. Разам з Яўгенам, слесарам Мінскага аўтазавода, паедуць рабочы інструментальнага цэха Рыгор Квач, работніца сталеліцейнага цэха Тамара Кузняцова. З іншых заводаў Мінска — шліфавальшчык трактарнага Іван Валошка і слесар Косця Авадзень, слесар матавелазавода Пётр Мышкін і токар Іван Ліс. Шмат камсамольцаў Беларусі адгукнуліся на заклік Партыі і Урада. Пурпуровая кніжачка — давер'е пасланцам камсамола.

... Там, у шырокіх стэпах Казахстана, ляжаць мільёны гектараў ніколі не воранай зямлі. Над бяскрайнімі зямнымі абшарамі толькі птушкі ўладараць у паднябессі ды ўдалечыні сумуюць курганы — адрогі Уральскага хрыбта. Колькі багацця ляжыць у гэтай зямлі! Настала пара ўзняць яе векавую цаліну! Для гэтага ў нас ёсць тэхніка: магутныя трактары і камбайны, шматлікія сеялкі і дасканалыя культыватары. Ёсць таксама гарт і воля савецкіх людзей.

Моладзь заўсёды першая адгукаецца на гарачы парыў і думкі народа. Выраслі смелымі і мужнымі, умелымі і дужымі нашы юнакі і дзяўчаты. Не палохаюць іх далёкія дарогі. Не чужыя, а родныя ім усе куткі нашай неабсяжнай маці-Радзімы. Нікога не палохаюць сібірскія вятры і марозы, спякота і дажджы Казахстана. Бо здаўна вядома, што ўсё пад сілу савецкім людзям, якім пакарыліся халодная поўнач і пяскі Кара-Кумаў. Камсамольцы — унукі тых, хто таксама па закліку партыі ішлі па проламках штурмаваць Кранштадт. Яны глыбока носяць у сэрцы подзвігі бацькоў і дзядоў: то было юнацтва нашай рэвалюцыйнай бацькаўшчыны, якое спявала «Вперёд, заре навстречу».

І не толькі гэта натхняе нашых юнакоў і дзяўчат. Яны ўвасобілі мужнасць, стойкасць Улі Громавай і Алега Кашавога. У дні суровых выпрабаванняў, у дні Вялікай Айчыннай вайны некаторыя з іх ужо самі былі на пярэднім краі. Рыгор Квач знаходзіўся ў партызанах, помсціў фашысцкім захопнікам за гора роднай зямлі. Потым служыў у Савецкай Арміі, а дэмабілізаваўшыся, пайшоў на аўтазавод. Ён валодае спецыяльнасцю трактарыста і таму адзін з першых сярод аўтазаводцаў адгукнуўся на заклік роднай Камуністычнай партыі.

Як усхвалявана гучала ў зале XVIII з'езда ЛКСМ Беларусі разві-




**Ад імя школьнікаў ад'язджаючых вітала вучаніца Надзя Паходня.**

**Апошні дзень дома. Валеры Ваўчкоў запрасіў да сябе Яўгена Кабанава, каб разам адзначыць правады. А заўтра — у дарогу!**





# КОМСАМОЛА БЕЛАРУСІ



**На памяць трэба сфатаграфавацца на Цэнтральнай плошчы.**

тальная комсамольская песня! Яна ўзнікла сама, нібы голас душы, і загучала мацней і мацней сярод дэлегатаў.

«Дан приказ ему на запад,
Ей в другую сторону.
Уходили комсомольцы...»

... За сталом прэзідыума з'яўляецца сакратар ЛКСМБ тав. Машэраў. Зала супакойваецца. Таварыш Машэраў звяртаецца да ад'язджаючых:

— Вы маеце гонар належаць да стотысячнай арміі маладых энтузіястаў, якія па закліку партыі ідуць на вялікую, высакародную справу. Партыя высока ацаніла і ўхваліла гэтую новую ініцыятыву комсамола. Услед за вамі паедуць новыя атрады беларускай моладзі.

Міністр сельскай гаспадаркі тав. Касцюк сказаў:

— Усю працавітасць беларускага калгаснага сялянства павязуць нашы комсамольцы туды, у Казахстан. Добрыя ў вас рукі — добрыя там і цалінныя землі.

Ад'язджаючых вітаў сакратар ЦК КП Беларусі тав. Аўхімовіч.

Паднёсшы кветкі, пад буру воплескаў з прывітаннем ад школьнікаў Мінска выступіла Надзя Паходня. Вось яна на трыбуне.

— Жадаем поспехаў вам, дарагія сябры, — кажа яна. — Жадаем, каб землі, якія вы будзеце асвойваць, закаласавалі багатым ураджаем.

У адказ ад імя ад'язджаючых выступілі Тамара Кузняцова і малады рабочы Кідышка.

Іх словы — гэта голас адважных, гарачых сэрцаў, адданых справе народа. Яны едуць па прыкладу комсамольцаў Масквы, Украіны, па прыкладу моладзі ўсіх саюзных рэспублік. У іх ёсць традыцыі: пабудова горада юнацтва — Комсамольска, пабудова гігантаў першых пяцігодак. І гэтая асвоеная зямля будзе звацца комсамольскай зямлёй.

7 сакавіка працоўныя Мінска, дэлегаты XVIII з'езда ЛКСМБ урачыста праводзілі першую групу сталічных комсамольцаў, якія паехалі ў Казахскую ССР.

Прывакзальная плошча. Перон запоўнены, як веснавою вадою, плынню людзей... Кветкі. Пацалункі. Бачыце, у дзевятым і дзесятым вагонах едуць землякі.

Шчаслівай дарогі, дарагія таварышы! Шчаслівай дарогі і плённых поспехаў!



**Апошні вальс у Мінску.**



**Перад адыходам поезда.**

**Паравоз даў свісток. Поезд пайшоў. Усяго добрага, таварышы!**



**В. БАБРОВІЧ**

# САКРАТАР РАЙКОМА

Начальнік палітаддзела часці палкоўнік Сушкоў Пётр Іванавіч, чалавек немалады, разважлівы, за сваю доўгую службу ў арміі сустракаўся з рознымі людзьмі і заўсёды ўмеў знаходзіць ключ да іх сэрцаў.

І цяпер, калі перад ім стаяў гэты напорысты юнак, палкоўнік быў бязмежна рады і шчаслівы: армія зрабіла з яго валявога, порсткага, баявога чалавека.

— Значыць, вы канчаткова вырашылі паехаць у вёску? — перапытаў палкоўнік. — Гэта, вядома, вельмі добра. Толькі я хацеў вас папярэдзіць, што зараз вельмі адказны час. Партыя, савецкі ўрад накіроўваюць усе намаганні на тое, каб узняць сельскую гаспадарку. Гэта зараз галоўнае. А можа вы забярэцеся ў якую-небудзь кантору і будзеце там перапісваць паперкі. Спецыяльнасці-ж у вас няма? А вы палітработнік, арганізатар.

— І такія там цяпер патрэбны. Я, таварыш палкоўнік, усё ўлічыў, усё абдумаў.

«Рысуецца малады чалавек. Хоча характар паказаць», — падумаў палкоўнік, а ўголас сказаў:

— Таварыш Дзянісаў! Наша часць гвардзейская. Спадзяюся, што яе выхаванцы застануцца гвардзейцамі на ўсё жыццё.

...Леанід Дзянісаў прыехаў у Ельск, стаў на партыйны ўчот і з першых дзён прыняў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Хутка камсамольцы раёна ўведалі Леаніда як энергічнага, нястомнага маладзёжнага арганізатара, завадатара розных захапляючых спраў. І таму ніхто не здзівіўся, калі на адным з пленумаў яго выбралі сакратаром райкома. Новае прызначэнне хвалявала Леаніда. Ён нават крыху баяўся сваёй новай пасады.

Распячатваючы ліст са знаёмым почыркам, Леаніду Дзянісаву падумалася, што з часу, як ён развітаўся з палкоўнікам Сушковым, прайшлі доўгія гады. Але гэта толькі здавалася: проста, за гэты час адбылося шмат падзей.

— Напэўна, Пётр Іванавіч (з таго часу, як Дзянісаў стаў цывільным, ён называў палкоўніка не інакш, як Пятром Іванавічам) з новым годам віншуе. Ён такі: не забудзе, — гаварыў Леанід Дзянісаў сваім супрацоўнікам.

Палкоўнік хоць і віншаваў з новым годам, але перш за ўсё прасіў былога гвардзейца расказаць, як адчувае ён сябе пасля дэмабілізацыі, як ідзе ў яго работа.

Леанід прыкінуў у думках, як трэба напісаць пра сваю дзейнасць. Куды лягчэй, вядома, расказаць аб тым, з якімі поспехамі заканчваюць рабочы дзень камсамольцы раёна. Там усё добра відаць, іх працу можна выразіць у лічбах. Але як, у якіх адзінках вымераць работу сакратара райкома камсамола? На такое пытанне адразу не адкажаш. Тут трэба моцна падумаць.

...Гэта былі напружаныя, гарачыя дні. Першыя два месяцы Леанід раз'язджаў на матацыкле, які нікуды не быў варты. Праз тыдзень матацыкл ператварыўся ў ламачыну: фыркаў, страляў, роў і спыняўся праз кожныя сто метраў. Дзянісаў кінуў яго і стаў мерацьь адлегласць да кожнага калгаса пешшу. Прыходзіў у калгас, арганізоўваў, згуртоўваў моладзь і вяртаўся з калгаса толькі тады, калі быў упэўнены, што камсамольцы яго зразумелі і зробяць так, як ён ім раіў.

Партыйных арганізацый у многіх калгасах не было, і Леанід добра разумеў, што ролю арганізатараў калгасных мас павінны выконваць камсамольскія арганізацыі. Значыць, неабходна прывіваць камсамольцам пачуццё адказнасці за становішча спраў у калгасах.

...У калгасе «Большэвік» зніжаліся ўраджаі, падала прадукцыйнасць жывёлы. Побач з калгасам ляжалі некранутыя масівы тарфянікаў, а збожжа сеялі па няўгноенай глебе. У пярвічнай арганізацыі налічвалася 102 камсамольцы, але ні адзін з іх не працаваў на ферме.

У «Большэвік» выязджалі прадстаўнікі райвыканкома, змянялі там брыгадзіраў, давалі ўказанні старшыні, але справы не паляпшаліся. «Мусіць, не кранугы асноўныя рэзервы», — думаў Леанід Дзянісаў.

Пайшоў да сакратара райкома партыі, расказаў аб сваіх думках і планах. Адразу-ж пасля гутаркі паехаў у калгас.

— Можа і ты прыехаў сюды, каб ушчуваць мяне? — жартаваў старшыня калгаса Васіль Мінавіч Цік, паціскаючы руку Леаніду. — Не? Тады ў мяне да цябе ёсць пільная справа.

Васіль Мінавіч выклажыў Дзянісаву ўсё, што набалела. Ён гаварыў аб тым, што камсамольцы любяць спяваць, танцаваць, нават не супраць намаляваць карыкатуру на старшыню калгаса, але за працай не ганяюцца. Многія проста ўвільваюць ад работы. Тры дні Леанід Дзянісаў разам з членамі праўлення і камітэта камсамола хадзіў па палявых брыгадах, шмат гутарыў з жывёлаводамі, слухаў, запісваў, блізка да сэрца прымаў кожную непаладку ў калгасе. І яму расказвалі ўсё, нічога не хаваючы. Нарэшце, адкрыты камсамольскі сход быў падрыхтаваны.

Дзвесце пяцьдзесят юнакоў і дзяўчат запоўнілі калгасны клуб. Перад пачаткам сходу спявалі, танцавалі пад гармонік. У зале было цесна. Але як толькі пачалі выбіраць прэзідыум, з задніх радоў непаседы-хлопцы і дзяўчаты непрыкметна пачалі выходзіць у сенцы.

«Чаго добрага, хутка адзін прэзідыум у клубе застанецца», — падумаў Леанід. Ён раптам зразумеў, што ад яго зараз залежыць далейшы лёс сходу. Трэба толькі захапіць сваіх слухачоў, данесці да іх свядомасці, што ад іх залежаць росквіт калгаса і дабрабыт калгаснікаў. Леанід гаварыў горача, страсна. Больш ніхто ўжо не выходзіў з залы, многія вярталіся ў клуб.

Выступаўшых было многа. Але калі з месца падняўся Антон Шэцкі, многія здзівіліся. Аб чым будзе гаварыць гэты ленаваты хлопец?

— Прашу паслаць мяне на ферму, — сказаў ён і сеў.

Многія не паверылі: пад настрой сказаў, моў, хлопец. Але Леанід падтрымаў яго.

— Антону можна паверыць, — сур'ёзна сказаў ён. — З Антонам ніколі не гаварылі шчыра, вось ён і прывык падленьвацца. А зараз пабачыце, што працаваць ён будзе добра.

Пасля сходу зноў зайграў гарманіст. Леанід першым пайшоў танцаваць з Таняй Цік. Таня ў пачатку сходу ўцякала з клуба ў сенцы, але вярнулася адтуль у ліку першых.

— А ты, Таня, добра танцуеш... Дарэмна табе не сядзіцца ў клубе. Я-ж бачыў, як ты збіралася ўцякаць адсюль, — пажартаваў Леанід.

Дзяўчына пачырванела.

— Калі-б такія цікавыя даклады рабілі, дык ніхто не ўцякаў-бы, — шчыра прызналася Таня.

На гэты раз пачырванеў сакратар райкома.

А раніцай Леанід быў на фермах, у полі, зноў размаўляў з камсамольцамі, падказваў, як і што трэба рабіць.

Пасля такога наведвання калгаса сакратаром райкома камсамольская арганізацыя стала мацнець і расці. Але яшчэ доўга сюды прыязджалі работнікі райкома, дапамагалі наладжваць работу. Рабіць гэта ім было лёгка, бо заўсёды Леанід Дзянісаў не толькі расказваў, што трэба зрабіць, але — з кім неабходна весці размову, на каго абапірацца пры выкананні даручэння.



Леанід Дзянісаў.

Рашэнні вераснёўскага Пленума ЦК КПСС ажывілі работу ў пярвічных камсамольскіх арганізацыях. Маладыя калгаснікі з вялікім энтузіязмам змагаюцца за тое, каб у бліжэйшыя два-тры гады рэзка ўзняць узровень сельскай гаспадаркі ў раёне. А для гэтага неабходна перабудаваць усю работу на сяле.

Ініцыятарамі гэтай перабудовы былі спецыялісты сельскай гаспадаркі, якія прыехалі з гарадоў і раённых цэнтраў. Сярод іх—шаснаццаць маладых ленінградцаў. Сустракаць ленінградцаў на станцыю Ельск прыйшло больш сотні камуністаў і камсамольцаў. Гаварылі кароткія, але палымяныя прамовы, і ўсе дзякавалі камсамольцам горада-героя за таварыскую дапамогу.

Аўгуст Рахленка, начальнік цэха ленінградскага завода, быў прызначаны загадчыкам майстэрнямі Скараднянскай МТС.

З ім Леанід Дзянісаў пазнаёміўся на вакзале. Яны спадабаліся адзін аднаму. Прайшоў час, пра Аўгуста загаварылі, як пра высокакваліфікаванага спецыяліста, добрасумленнага работніка. Бюро райкома рэкамендавала яго сакратаром комсамольскай арганізацыі. А на раённай канферэнцыі ён быў выбраны членам райкома комсамола.

З першых дзён прыехаўшых у калгас спецыялістаў комсамольцы акружылі клопатамі і ўвагай. Сакратары райкома, члены бюро дапамаглі набываць кватэры, дабіваліся аказання матэрыяльнай дапамогі. Адчуваючы клопаты аб сабе, прыехаўшыя спецыялісты адразу-ж уключаліся ў актыўную работу.

Прайшло толькі тры месяцы, як Леанід Дзянісаў стаў працаваць сакратаром, а пра яго ўжо гаварылі ў раёне з павагай. Незадаволены сваёй работай быў толькі Леанід Дзянісаў. Яму хацелася ўнесці ў комсамольскую работу нешта новае, што ажывіла-б дзейнасць пярвічных арганізацый. Сакратар райкома прыглядаўся да работы асобных камітэтаў комсамола.

Комсамольцы сельгасарцелі імя Кірава ўзяліся наводзіць парадак на фермах. Работа ішла дружна, зладжана. «А каб так пачала працаваць кожная арганізацыя! — думаў Леанід Дзянісаў. — Што для гэтага трэба?

Работнікі райкома, комсамольскія актывісты пятнаццаць-дваццаць дзён праводзяць у пярвічных арганізацыях: агітуюць, арганізоўваюць моладзь, дапамагаюць ёй зразумець свае задачы па ўдзелу ў выкананні рашэнняў вераснёўскага Пленума ЦК КПСС. І неўзабаве ўсім сталі вядомыя справы ельскіх комсамольцаў.

— Калі моладзь убачыць, якім аўтарытэтам карыстаюцца члены ВЛКСМ, яна пойдзе ў комсамол, — гаварыў Леанід актывістам.

І моладзь пайшла ў комсамол. Цяпер раённая комсамольская арганізацыя налічвае ў сваіх радах 2 800 членаў ВЛКСМ. Больш 200 комсамольцаў пайшлі працаваць на фермы, маладыя калгаснікі добра працуюць на палявых работах.

Самае галоўнае ў рабоце выхавацеля — гэта пераканаць чалавека ў тым, што ён можа многае зрабіць, калі будзе ўпэўнены ў сваіх сілах. Але яшчэ больш важна выхаваць пачуццё ініцыятывы, знаходлівасці.

У газетах з'явілася паведамленне аб перавагах вырошчвання расады ў торфаперагнойных гаршочках. У калгасах пачалі нарыхтоўваць торфаперагнойную масу. Справу затрымлівала толькі тое, што не было спецыяльных станкоў для вырабу гэтых гаршочкаў. На дапамогу прышлі комсамольцы мэблевай арцелі. Пасля работы яны вырабілі каля поўсотні спецыяльных станкоў. А праз месяц ужо калгаснай моладдзю было зроблена чатыры мільёны штук кубікаў.

Так крок за крокам узнімалася актыўнасць моладзі. Вядома, Леанід не мог усюды паспець адзін. Ён разумеў, што добрых вынікаў можна дабіцца толькі тады, калі ў райкома будзе моцны актыў. Бюро райкома зацвердзіла 46 нештатных інструктараў, прыцягнула да актыўнай работы членаў райкома. Часта, ідучы ў калгас, сакратар райкома бярэ з сабой аднаго-двух актывістаў, каб яны на месцы вучыліся праводзіць работу ў пярвічных арганізацыях.

Амаль кожны дзень у райком заходзіць хто-небудзь з комсамольцаў.

— Еду ў вёску. Можа ёсць якое даручэнне?

Гэтага не лёгка было дасягнуць. Але бюро дабілася свайго. Размаўлялі з кожным актывістам паасобку, імкнуліся заахвоціць яго, зацікавіць. Недысцыплінаваных аддавалі на суд саміх комсамольцаў. І справа наладзілася. Але гэта ў раёне. А вось нядаўна Леанід Дзянісаў прышоў у Ельскую МТС і трапіў на комсамольскі сход. Як і ў мінулы раз, у спрэчках выступалі адны і тыя-ж комсамольцы. «Гэта выпадковасць ці сістэма?» — падумаў Леанід.

— Не кожны ўмее выступаць, — растлумачыў яму такое становішча Аляксей Шуматкін, сакратар камітэта комсамола МТС.

— Няпраўда, — запярэчыў яму Дзянісаў. — Вось Віктар Хамутоўскі, Яўген Радзівіл, Леанід Семяненка добрыя комсамольцы, але яны не выступаюць. Хіба ў іх няма пра што расказаць? Даручы ім падрыхтаваць якое-небудзь пытанне, і сам убачыш, што яны выступяць не горш за тваіх штатных прамоўцаў. І трэба даваць даручэнні тым, хто сам адстае. Будзе крытыкаваць суседа і аб сабе падумае.

І цяпер у МТС справы пачынаюць папраўляцца.

...Аднойчы Дзянісаў прыехаў у калгас імя Кірава, каб праверыць работу маладых нарыхтоўшчыкаў торфу. Справы ў брыгадзе ішлі добра, аб гэтым Леанід даведаўся яшчэ ў канцылярыі калгаса з размовы паміж брыгадзірам Косцяй Некрашэвічам і рэдактарам насценнай газеты Мішам Міксюком.

— Дай, Косця, пару гультаёў, — прыставаў рэдактар да брыгадзіра.

— Дзе я табе іх вазьму? Перавяліся яны,— адказваў спакойны Косця.

— Да апошняга?

— Да самага апошняга.

— Прыдзецца газету без карыкатуры вывешваць, — з жалем сказаў рэдактар.

— Ты больш пра ўдарнікаў пішы, — параіў Косця.

«Няўжо ўсё так добра? Зазналіся хлопцы, а гэта ўжо шкодна», — падумаў Леанід Дзянісаў. Ён вырашыў уважліва прыгледзецца да ўсяго. Аказалася, тэмы для карыкатуры не перавяліся, і дарэмна Косця Некрашэвіч закрыў вочы на недахопы.

Праз нейкую гадзіну пасля апісанай размовы ў камітэт комсамола прыехаў Васіль Дыбчук, сакратар камітэта комсамола калгаса імя Молатава.

— Пазычце, таварышы, пару станкоў! Няма на чым рабіць гаршочкі.

На яго паглядзелі з пагардай, а сакратар камітэта Паўла Мазоль адказаў:

— Не дадзім. Ідзі сабе, з чым прышоў!

— Але-ж у вас станкі ляжаць без справы,— умяшаўся ў гутарку Леанід Дзянісаў, — а вашы суседзі іх не маюць.

— Самі могуць зрабіць. Няхай не лянуюцца.

— Мы ім дапаможам, а яны нас потым пераганяць!

Сакратар райкома ўсміхнуўся.

— Трэба далей сваіх агародаў глядзець.

— Першыя клопаты, вядома, аб сваім калгасе, — сказаў Паўла Мазоль. — Але калі вы настойваеце, мы ім станкі дадзім.

«Значыць, не разумеюць, што справа ў нас агульная, — падумаў Леанід. — Трэба з такімі адносінамі змагацца».

Леанід зразумеў, што райкомам дапушчаны недахоп. Трэба лепш займацца выхаваннем, вучобай моладзі. І так заўсёды, пільна прыглядзеўшыся, Леанід знаходзіў недахопы, «грахі», як ён іх называў.

За гэтыя «грахі» нямала дасталося Дзянісаву і ад дэлегатаў партыйнай канферэнцыі. У час перапынку Леанід да болю перажываў кожнае слова крытыкі таварышаў. А тут яшчэ падышоў упраўляючы маслапрома Петлах. З месяц назад на комсамольскім сходзе ў маслапроме з дапамогай Дзянісава з гэтага ўпраўляючага комсамольцы «здымалі іржу»: крытыкавалі так, што Петлах запрасіў літасці. Цяпер упраўляючы ўсміхаўся.

— Ну як, Лёня? Прыемна?..

— Аўтарытэт крытыкай падарваць нельга, а навучыць людзей заўважаць свае памылкі можна, — усміхаючыся праз сілу, адказаў Дзянісаў. — Крытыка, як хіна: лякарства горкае, а прымаць трэба, калі захварэў ліхарадкай.

...Леанід Дзянісаў схамянуўся, узяў паперу і пачаў пісаць ліст свайму былому начальніку. Расказвалася ў ім і пра справы комсамольцаў, і пра работу яго таварышоў, і пра яго, на першы погляд, непрыкметную, невымяральную, але вельмі важную працу, працу сакратара райкома комсамола.

**г. Ельск
Гомельскай вобласці.**

**Адам РУСАК**

## Украіне

Вее вецер з лесу,
Нагінае голле.
Як настане ранак,
Ты ідзеш у поле.
Ты ідзеш у поле,
У залатую ніву,
Сустракаеш сонца
З думаю шчаслівай.
За Дняпром шырокім
Вырасла пшаніца...
Чую тваю песню,
Родная сястрыца.
Чую тваю песню
Ды успамінаю,
Што ў жыцці з табою
Долю адну маю.
Што ў жыцці нямала
Мы пагаравалі
І адна другую
У горы ратавалі.
Нас Расія-маці
К сэрцу прыхіляла,
У бядзе ніколі
Нас не пакідала.
Многа рэк злілося
У дняпроўскай хвалі,
Каб ад гэтай плыні
Горы не ўстаялі.
Так і нашы думы
У сям'і адзінай
Злітыя навечна,
Любая Украіна.

## У Маскву я прыязджала

У Маскву я прыязджала,
Пабывала у Крэмлі,
За вялікі ураджай мне
Ордэн Леніна далі.
І чаму, сама не знаю,
Не магу я разгадаць, —
Валянцінаю Пятроўнай
Мяне сталі называць?!.
Быццам стала я другая,
Не такая, як была...
Я-ж вяду брыгаду ў поле,
Як заўжды яе вяла.
А яшчэ — ад нашых хлопцаў
Не схавацца мне нідзе:
Той на танцы запрашае,
А той кветак прынясе.
Ой вы, хлопцы, не хадзіце,
Вам скажу я праўду ўсю:
Сэрца я падаравала
Камбайнеру Петрусю.

* * *

Помніш, любы, як увесну
Каля вёскі, за ракой,
Неабсяжны наш палетак
Засявалі мы з табой...
А як жыта красавала,
Ззяла кроплямі расы,
Ціха казку веснавую
Нам шапталі каласы.
Ты прызнаўся мне ў каханні,
І ад гэтых шчырых слоў
У маім дзявочым сэрцы
Разгарэлася любоў.
Прышло лета залатое,
Поўны колас наш даспеў,
Мы з табой пажалі ніву
Пад машынны звонкі спеў.
Вецер лісце абрывае,
Гоніць хвалі ручая,
А ў душы вясна красуе
І цвіце любоў мая.

## Люблю лугі квяцістыя

Люблю лугі квяцістыя,
Люблю шумлівы гай,
Палеткі каласістыя, —
Цябе, мой родны край!
Калі яшчэ туманіцца
Нізіна за ракой,
Выходжу ў поле раніцай
З брыгадай палявой.
Мільгне сукенка белая
Між спелых каласоў...
Ідзеш ты, загарэлая,
З чарняваю касой.
Сваёй усмешкай веснаю
Усміхнешся ветла мне,
Працяжнай звонкай песняю
Душу мне скалыхнеш.
А сэрца, сэрца чулае
Падказвае з грудзей,
Што мне не жыць без песні той,
Не жыць без тых вачэй.
Люблю лугі квяцістыя,
Люблю шумлівы гай,
Палеткі каласістыя, —
Цябе мой родны край.

# Вясна ў калгасе

Фотаздымкі для нашага часопіса падрыхтаваны кінааператарам І. Пікманам.

Над бяскрайнімі палямі калгаса імя Гастэлы ярка свеціць сонца. На дрэвах распусцілася лісце, зазелянела трава. Прышла вясна! Для калгаснікаў гэта гарачы час. Трэба своечасова засеяць яравыя, падкарміць азімыя, высадзіць расаду ў грунт. Брыгадзіры і аграномы пайшлі па палях, агледзелі іх. Можна пачынаць сяўбу. І вось ужо ідзе па полі трактар, цягне за сабой сеялкі. Хутка палі зарунеюць усходамі. Яшчэ зімой агароднікі нарыхтавалі шмат торфаперагнойных гаршочкаў. Сёлета калгас вырасціць намнога больш гародніны, чым у мінулым годзе. А ў цяпліцах паспеў ураджай гародніны, гатова да высадкі на градкі расада. Агароднікі рупліва даглядаюць яе.

Добра падрыхтаваліся да вясны жывёлаводы. Сёлета ў калгасе будзе пасеяна намнога больш кармавых траў, палепшаны сенакосныя ўгоддзі. Кожную раніцу калгасныя пастухі выганяюць жывёлу на пашу. Вясна наступае. Хутка закончыцца сяўба. Потым прыдзе лета, уборка ўраджаю. Па полі паплывуць камбайны, збіраючы высокія ўраджаі. З энтузіязмам працуе калгаснае сялянства, каб хутчэй ажыццявіць рашэнні верасnёўскага Пленума ЦК КПСС.





Юрый ПОЛЯК

# НА НОВЫМ МЕСЦЫ



Кожны вечар Міхаіл Кіслоў прысвячае некалькі гадзін павышэнню свайго тэарэтычнага ўзроўню.

Іх першая сустрэча адбылася на раённай сельскагаспадарчай выстаўцы. Дзяўчына гадоў восемнаццаці захапляюча расказвала пра сваю работу даяркай. У натоўпе, што слухаў яе, стаяў заатэхнік Міхаіл Кіслоў.

«Расказваць з такім натхненнем можа толькі чалавек, які мае гарачае сэрца і вельмі любіць сваю работу, — думаў ён. — А я нават не ведаю, хто яна. Сяджу да позняй ночы і перапісваю розныя паперкі».

— Як ваша прозвішча? — запытаўся Міхаіл у дзяўчыны.

— А навошта гэта вам?

Міхаіл Кіслоў крыху збянтэжыўся. Сапраўды, навошта яму спатрэбілася ведаць яе прозвішча?

— Ну, напрыклад, каб я да вас працаваць прыехаў... Цікаўлюся.

— Да нас? На ферму? А вы хто-ж будзеце? Заатэхнік? Гэта добра было-б. Толькі вы, напэўна, жартуеце.

— Хутка прыеду, — ужо цвёрда сказаў Міхаіл. — Дык вы так і не назвалі сябе.

— Паршута мае прозвішча. Матруна Паршута.

Цяпер заатэхніку захацелася даведацца больш: і як працуюць даяркі ў калгасе, і хто яны, і якія ў іх умовы працы. Але Матруна Паршута адказала коратка:

— Прыедзеце — самі ўбачыце...

Праз некалькі дзён Міхаіл Кіслоў прыехаў у калгас «Новае жыццё».

— Назусім. Разам працаваць будзем, — паведаміў ён.

Даяркі ахвотна расказвалі пра сваю працу, пра поспехі, але больш пра недахопы.

— Даярак, якія дабіваюцца высокіх надояў, у нас па пальцах пералічыш. Матруну вы ўжо ведаеце. Ну, вось яшчэ Дар'я Страх добра працуе. Астатнія так сабе... — расказвала Марыя Рабірох.

— Не ў нас прычына, — сказала Дар'я Страх. — Кіраўнікі нашы клапоцяцца толькі аб развіцці паляводства, а на жывёлагадоўлю яны рукой махнулі. Таму і справы такія.

Яе падтрымала адна дзяўчына.

— Сёлета калгас ад ільну паўтара мільёна рублёў прыбытку атрымаў. Гэта лічба! А ад жывёлагадоўлі што? Слёзы горкія, а не прыбыткі. Нашы фермы толькі шмат клопату прыносяць: то кармоў нехапае, то яшчэ чаго. Каб не трэба было план выконваць ды перад начальствам справаздачу даваць, фермы зусім ліквідавалі-б, як непрыбытковыя.

— Глядзяць на нас, як на пасынкаў, — сказала Марыя Дзедавец. — Вазьмі хоць вучобу. З паляводамі аграномы займаюцца, для іх Дом сельскагаспадарчай культуры. А нам там нават кутка не знайшлося. Пайшла нядаўна ў бібліятэку — ніводнай кніжкі па жывёлагадоўлі не знайшла.

Міхаіл уважліва слухаў, што гаварылі даяркі. Потым яму захацелася пагутарыць з членамі праўлення. Але ў канцылярыі калгаса нікога не было. Тады ён пайшоў у Дом сельскагаспадарчай культуры. Там сядзеў аграном Віктар Зоркін, які таксама нядаўна прыехаў у калгас. Віктар перабіраў кнігі на паліцах, нешта запісваў у блакнот, і ўвесь час задаволена выпукваў:

— Цудоўна! Глядзі ты... Нават не думаў, што тут такія кнігі ёсць! Гэта добра, што мы трапілі ў калгас, дзе дружаць з навукай, дзе ўмеюць весці гаспадарку. Праўда, Кіслоў? Ты чаго задумаўся? Можа, не згодзен?

— Гавары, я слухаю, — ціха прамовіў заатэхнік.

— Я толькі што размаўляў з брыгадзірамі Арцёмам Рабірохам і Пракопам Матарасам. Ты ведаеш іх! Вялікія работы вядуць. Сапраўдныя мічурынцы. Расказвалі мне, як яны вырошчваюць галіністую і шматгадовую пшаніцу. Вельмі цікава. А ты незадаволены, што прыехаў сюды?

— Чаму гэта незадаволены?! Не ў гэтым справа. Вось ты на ўсё гатовенькае прышоў, а мне трэба спачатку пачынаць. Гэта нават цікавей: змаганне прадстаіць, барацьба. Ты праглядаў бібліятэку. Скажы, трапілася табе хоць адна кніжка па жывёлагадоўлі? Не? Вось бачыш?

Віктар Зоркін ўстаў з крэсла, паклаў руку на плячо Міхаіла Кіслова.

— Мы з табой, Міша, будзем дапамагаць адзін другому. Дазволь мне пагаварыць з членамі праўлення. Агроному яны хутчэй паверацьць.

...Так пачаў сваю працоўную дзейнасць Міхаіл Кіслоў. Жыццё кожны дзень ставіла перад ім усё новыя і новыя задачы. Трэба было арганізаваць працу на фермах, стварыць умовы для работы жывёлаводаў, паклапаціцца аб кармах. Трэба, каб Дар'я Страх больш не ўпікала, што «кармоў у



Лепшая цялятніца калгаса комсамолка Вера Рабірох.

абрэз» і таму яна не можа надаіць столькі малака, колькі надойваюць перадавыя даяркі рэспублікі.

Міхаіл хутка зразумеў, што аднаму яму не справіцца з усімі гэтымі складанымі задачамі. І ён звярнуўся за дапамогай да спецыялістаў.

З галоўным зоатэхнікам Міколам Кананенкам і аграномам Зосяй Кулакоўскай ён склаў прыфермскі севазварот. Калгасны бухгалтар Іван Земляніка дапамог Міхаілу распрацаваць кармавы баланс. У кожным пачынанні, у кожнай справе людзі горача яго падтрымлівалі.

Імкненне калгаснікаў хутчэй ажыццявіць рашэнні верасьнёўскага Пленума ЦК КПСС відаць было ва ўсім. Калгас падрыхтаваўся да стойлавага перыяду лепш, чым у мінулым годзе, нарыхтаваў дастатковую колькасць кармоў, стварыў базу для ўзняцця прадуктыўнасці жывёлы. Не абышлося без барацьбы з адсталымі поглядамі на вядзенне гаспадаркі.

Міхаіл падлічыў, што зімой можна будзе паставіць на раздой 50 кароў, павысіць надоі ад усяго статку. Але на сходзе пачуліся рэплікі: «Моцна загнулі», «Зімой раздойванне немагчыма рабіць». Прышлося даказваць з лічбамі ў руках, а калі некаторыя ўсё-ж спрабавалі пярэчыць, Міхаіл у катэгарычнай форме запатрабаваў увесці раздой. Тыя, хто не верыў навуцы, змоўклі, насцярожыліся, відаць, чакаючы няўдачы, каб потым сказаць: «Ага, мы-ж казалі!..»

Але Міхаіл Кіслоў не баяўся няўдачы. Ён верыў у навуку і ў тых людзей, якія згадзіліся ва ўсім дапамагаць яму.

Па вечарах у клуб прыходзілі жывёлаводы. Слухалі лекцыі, чыталі кнігі. Міхаіл набыў літаратуру і сам узяўся кіраваць трохгадовымі зоатэхнічнымі курсамі. Нярэдка гутарка зоатэхніка заканчвалася спрэчкай паміж слухачамі. Неяк даярка Тацяна Субот запярэчыла зоатэхніку:

— Як вы ні гаварыце, а ад нашых кароў не атрымаеш па дзве з паловай тысячы літраў малака.

Міхаіл Кіслоў спачатку хацеў сам адказаць Тацяне. Але тут паднялася са свайго месца Паршута.

— Дазвольце, Міхаіл Міхайлавіч, я адкажу Тацяне.

Пасля заняткаў Міхаіл сказаў Матруне Паршута:

— Добра было-б, каб вы, таварыш Паршута, запісалі сваё сённяшняе выступленне. Мы яго змесцім у насценгазеце. Не адна Тацяна тады пераканаецца, што можна надойваць і па тры тысячы літраў малака.

— Дык я-ж ніколі не пісала.

— А мы разам напішам. Згода?

Праз некалькі дзён у насценнай газеце была змешчана цікавая заметка аб вопыце работы лепшай даяркі калгаса.

Прайшло з паўгода, як Міхаіл прыехаў у калгас. Тэрмін не вельмі вялікі, але дастатковы для таго, каб стала відаць праца чалавека. За гэты час многага дасягнулі калгасныя жывёлаводы. Яны механізавалі асноўныя працаёмкія працэсы. У чатырох кароўніках устаноўлены аўтапаілкі, набыты коранеклубнемыйкі, коранерэзкі, бульбамялкі. Вядома, гэта яшчэ першыя крокі. Хутка механізаваны будзе ўвесь працэс кармлення і даення кароў.

Цяпер ужо ніхто з даярак не скардзіцца, што іх работай не цікавяцца кіраўнікі калгаса. Жывёлаводы ідуць побач з паляводамі ў барацьбе за стварэнне багацця прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Змяніліся адносіны жывёлаводаў да сваёй работы. Цяпер перадавікоў не «пералічыш на пальцах». Кожны работнік фермы ўносіць свой уклад у агульную справу.

Вось як было з механізацыяй падачы вады на ферму. Аўтапаілкі прывезлі ў калгасы тады, калі ўжо наступалі халады. Знешнія трубы, якія ідуць ад воданапорнай вежы не паспелі ацяпліць, як ударылі марозы. Кіраўнікі калгаса хацелі пакінуць работу да вясны.

Але жывёлаводы настаялі на сваім. Яны звярнуліся да цесляроў, і агульнымі намаганнямі трубы былі ацеплены. Вада пайшла на ферму.

— Добрыя справы маюць хуткія крыллі! — кажуць калгаснікі.

Аб дасягненнях калгаса «Новае жыццё» стала вядома ва ўсім раёне. Усім хацелася паглядзець, як вядзецца механізацыя ферм, як апрацоўваецца салома хімічным спосабам, як працуюць даяркі, цялятніцы. Райком партыі арганізаваў у сельгасарцелі «Новае жыццё» семінар старшынь калгасаў. І зноў наведвальнікі слухалі цікавыя расказы не толькі зоатэхніка, але і радавых калгаснікаў, якія мелі цяпер у дадатак да вялікага практычнага вопыту і значную тэарэтычную падрыхтоўку.

**Тураўскі раён**
**Гомельскай вобласці.**

Даярка Матруна Паршута рыхтуе корм сваім каровам.
Фото Г. Шаўгені.



Пятрусь МАКАЛЬ

## Я ішла дадому

З вечарынкі я ішла дадому,
А за мною — хлопец незнаёмы.
Неўзабаве-ж здарылася так,
Што даводзіць мне пачаў юнак,
Нібы з ім жывем мы побач недзе,
Нібы з ім мы блізкія суседзі,
Нібыта якраз нам па пуці:
Удваіх-жа весялей ісці...

А пры нашай пры другой сустрэчы
Быў такі пагодны, цёплы вечар,
Што са мной да поўначы ніяк
Не хацеў развітвацца юнак.

«Нельга, — гаварыў ён мне прыветна,—
Не падыхаць гэтакім паветрам...»

І заўсёды у майго хлапчыны
Для спатканняў — новыя прычыны:
То лагодны таямнічы гоман,
Што з ліствою ветрык завядзе,
То агні, якія ўпалі ў Нёман
І гараць, не гаснучы, ў вадзе...

Мы далей, далей усё з ім ходзім
І вакол ва ўсім красу знаходзім...

## Па знаёмай вуліцы

Цішу парушае
Лісце дружным гоманам,
Крочу, не спяшаю
Каля твайго дому я.
Сёння апярэдзіў
І гудкі, і сонца...
Тут, за штораў недзе,
Ты, мая бяссонніца.

Аб маіх сакрэтах
Ты не здагадаешся, —
Ад чаго я гэтак
Рана прачынаюся.

Ідучы на працу,
Збочваю з напрамку я,
Каб хутчэй спаткацца
Зноў... з нямою брамкаю.
Бо цябе ізноўку
Не знайду ля дому я,
Нейчая сяброўка,
А мая знаёмая...

Вецярок дзьме ў вочы,
Дрэва к дрэву туліцца...
У цішы я крочу
Па бязлюднай вуліцы.




**З таго часу, як над краінай разнёсся заклік Партыі да моладзі аб удзеле ў асваенні цалінных і абложных зямель, у камітэт комсамола Мінскага аўтазавода кожны дзень паступаюць усё новыя і новыя заявы маладых энтузіястаў.**

На здымку: **комсамольцы аўтазавода здаюць свае заявы членам камітэта.** Злева направа: **ля карты — Васіль Аляшкевіч, Яўген Кабанаў, Аляксандр Боханаў і намеснік сакратара камітэта Генадзі Лайко;** на пярэднім плане — **намеснік сакратара камітэта Валянціна Сідорык, Станіслаў Алісёнак і Яўген Бароўскі.**

Фото А. Дзітлава.

# ШЭФЫ

Калектыў Акадэміі навук БССР шэфствуе над калгасамі зоны Яноўскай МТС Халопеніцкага раёна Мінскай вобласці. У гэтай пачэснай грамадскай рабоце актыўны ўдзел прымае камсамольская арганізацыя акадэміі.

Камсамольцы распрацоўваюць праект электрыфікацыі калгаса «Шлях соцыялізма». Гэтым летам у дамах калгаснікаў, на фермах, у падсобных майстэрнях калгаса загарацца лямпачкі Ільіча, пачнуць працаваць электраматоры.

У другім калгасе — імя Карла Маркса — моладзь з Інстытута лесу дапамагае абсталяваць устаноўку для распілоўкі драўніны. Будаўніцтва, якое шырока разгарнулася ў калгасе, будзе забяспечана піламатэрыяламі.

Ва ўсіх інстытутах сістэматычна праводзіцца збор кніг для калгасных бібліятэк. Некалькі соцень кніг — па сельскай гаспадарцы і лепшыя творы мастацкай літаратуры — перададзены ўжо ў карыстанне сельскіх чытачоў.

Камсамольцы Акадэміі навук сістэматычна бываюць у падшэфных калгасах, чытаюць там даклады, дапамагаюць выпускаць насценныя газеты і г. д.

На здымках: справа — у адной з лабараторый Інстытута сельскай гаспадаркі. Навуковы супрацоўнік Інстытута камсамолец Сяргей Балаханаў і лабарантка камсамолка Людміла Броніч даследуюць пробы вапняковага туфу, месцанараджэнне якога выяўлена на тэрыторыі Халопеніцкага раёна.

Унізе — група камсамольцаў супрацоўнікаў Інстытута энергетыкі і Фізіка-тэхнічнага інстытута, якой кіруе галоўны інжынер С. А. Лабастаў, за работай над праектам электрыфікацыі калгаса «Шлях соцыялізма».

Фото А. Дзітлава.



**П. БЕРАЗНЯК**





# Іх сябры

**Нарыс**

Дзіна Яфрэмаўна брала сшытак, называла прозвішча вучня і тады ўжо аб'яўляла адзнаку.

Міша Шыла загадзя ведаў, якія памылкі ён зрабіў у дыктоўцы, якая яму будзе адзнака і што скажа Дзіна Яфрэмаўна. І ўсё-ж, калі настаўніца ўзяла яго сшытак, Міша схамянуўся і пачырванеў.

— Росту няма ў цябе, Міша, — сказала настаўніца, працягваючы яму сшытак. — Летась ты пісаў куды лепш. Адно тваё ўкладанне, памятаеш, перад усім класам чыталі. Заленаваўся ты, ці што? Сем памылак! Я нават здзівілася...

Міша моўчкі ўзяў сшытак і, не разгортваючы, паклаў яго ў парту. Па яго насупленых брывах цяжка было здагадацца, хвалюецца ён ці проста не звярнуў на ўсё гэта ніякай увагі.

На перапынку да Мішы падсеў шустры Пеця Палілей.

— Ужо раскіс, герой?!. — штурхнуў ён Мішу пад бок. — Я-ж таксама двойку атрымаў і хоць-бы што! Я ляснічым буду, навошта мне тая мова.

— Ты ўжо ў ляснічыя падаўся? — холадна ўсміхнуўся Міша.— А як-жа з рэактыўнай авіяцыяй?

Пеця паспешліва махнуў рукой.

— Перадумаў. Кажуць, для здароўя шкодна. І калі выкідваешся з парашутам, так штурхане цябе, што галава ў плечы ўлазіць. А ведаеш што, — дадаў ён нечакана, — цяпер мы з табой сябры. Давай я перасяду да цябе. З Бэлай не хачу сядзець. Яна такая задавака.

— Садзіся, мне што!

З гэтага дня Пеця Палілей толькі і кідаў направа і налева: «мы з Мішкам...», «мой сябра Мішка...» А «сябра Мішка», відаць, не быў у асаблівым захапленні ад такога сяброўства. На бесперапынную балбатню Пеці ён, бывала, не звяртаў увагі, а пасля ўрокаў паспешліва складваў у партфель кнігі і бег дадому.

— Слухай, сёння я змея запускаць буду, — паведаміў аднойчы Пеця. — Прыходзь, га?

Міша адмовіўся.

— Тады заўтра. Добра?

— І заўтра не магу.

— Ты што — усё зубрыш дома? — з насмешкай прыжмурыўся Пеця. — Хочаш сам сябе пераскочыць?

— Ну, ведаеш... — Міша нават змяніўся з твару. Са сціснутымі кулакамі ён падступіў да Пеці, але стрымаўся, крута павярнуў і хутка пакрочыў па вуліцы.

На наступны дзень Міша атрымаў яшчэ адну двойку — па беларускаму пісьму. Тут ужо ўмяшалася член камітэта комсамола Клава Мікуліч.

— У чым справа, Шыла?—строга спытала яна ў Мішы. — Твае аднакласнікі рыхтуюцца ў комсамол уступаць. Ты хіба не думаеш?

— Думаю, — глуха адказаў хлопчык.

— З двойкамі ў комсамол?

У гэты-ж дзень сабраўся совет атрада VII «А» класа. Выклікалі і Мішу з Пецем. Хоць і не любіў Пеця, як ён гаварыў, выслухоўваць натацыі, але на гэты раз хлопчык у душы быў задаволены. Задаволены тым, што на совет атрада яго выклікалі разам з Мішам. Пеця ўжо гатовы быў папрасіць у сябра прабачэння за нанесеную ўчора крыўду. Як-ні-як, праборку ім даюць абодвум і прабіраюць за двойкі...

А гаварылі з імі строга.

— Мая прапанова такая, — заявіла Валя Паспартава. — Заставіць іх займацца, і ўсё. Шыла і Палілей члены нашага калектыва? І хто ім даў права нас падводзіць?

— Правільна, — падтрымала Рыма Дарафеева. — Я, напрыклад, не веру, што яны не могуць вучыцца. Проста — гультаі. Ну, вось прызнайцеся, што вам перашкаджае?

— Мне дык коскі перашкаджаюць, — прамадушна прызнаўся Пеця. — Са словамі яшчэ мог-бы справіцца, а дзе коскі ды працяжнікі ставіць, ніяк не ўгадаеш. Але мы з Мішкам...

— Вы з Мішкам гультаі, — уставіла слова Валя Паспартава. — Цікава, што табе перашкаджае, Шыла? Можа, дужкі ці пытальнікі?

Міша намерыўся нешта сказаць, але неяк бездапаможна замаргаў вачыма і выбег з класа.

— Нават і гаварыць не жадае, — крыкнуў хтосьці ўслед.

Як і заўсёды, маці ў гэты час ужо была на рабоце. Мішу сустрэла дома сваім шчабятаннем трохгадовая Верачка: з Паўлікам яна гуляла ў схованкі, і ён палез хавацца пад лаву, але абярнуў бідон з газай, і Верачка адразу застукала Паўліка палачкай. А Косця, як толькі мама пайшла на работу, пабег на двор лавіць птушачку і не нясе...

Пакуль Міша выціраў разлітую на падлозе газу, Верачка папрасіла есці. Потым захацела, каб ён пачытаў ёй казку. А тут яшчэ трэба збегаць у магазін, прынесці вады, накалоць дроў, пашукаць, куды знік гэты непаседлівы Косцік.

За ўрокі Міша сеў увечары, калі маці прышла з работы. Ён паспешліва пачаў выконваць пісьмовыя практыкаванні.. Толькі-б паспець, пакуль у вачах не адчуецца пякучая рэзь і літары не заскачуць па кнізе. Астатнія ўрокі ён пастараецца прагледзець з большага раніцай, пры дзённым святле, або на перапынках у школе. Галоўнае, толькі-б не даведалася маці, што ў апошні час з яго вачыма робіцца нешта нядобрае. Тады яна зноў перавядзецца на першую змену і ўвесь час будзе хвалявацца, што дзеці дома застаюцца адны. У яе і так столькі клопатаў! Рэзь у вачах, можа, хутка пройдзе, і ён зможа зноў рыхтаваць урокі вечарамі. Тады кончацца гэтыя калючыя насмешкі з яго двоек, і Дзіна Яфрэмаўна не будзе паціскаць плячыма, правяраючы яго дыктант.

Гэты невясёлы роздум перарваў Пеця.

— Мішка, давай і праўда налягам на рускую мову! — закрычаў ён яшчэ з парога. — Давай удваіх будзем займацца. Хай не думаюць, што мы якія-небудзь пешкі.

Міша не ведаў, што адказаць. Жаданне расказаць каму-небудзь пра сваё няшчасце было такое вялікае, што хлопчык не ўтрымаўся, поўшэптам паведаміў Пецю пра ўсё.

— Ой, які-ж ты дурны, Мішка! — усклікнуў Пеця. — Ад мяне, ад свайго сябра, і ўтойваць? Ды мы-ж з табой удваіх мігам усё паробім па гаспадарцы. І да доктара сходзім....

Пеця спачатку хацеў утаіць мішаву бяду. Але назаўтра перад урокамі не стрываў, прызнаўся Арэнічу.

Назаўтра, калі Шыла з'явіўся ў клас, яго ўразіла непрывычная цішыня. Вучні сядзелі, нібы ў нечым вінаватыя перад ім, адводзілі вочы ўбок. У гэты дзень ён не пачуў ніводнай насмешкі, на перапынках таварышы стараліся яму чым-небудзь дагадзіць.

— Ты, мусіць, разбалбатаў пра мяне? — спытаў Міша ў Пеці.

— Што ты?! Магіла! — з выглядам змоўшчыка адказаў Пеця пакрыўджана.

Але клас ведаў пра ўсё, і кожны адчуваў сваю віну перад Мішам за несправядлівыя папрокі і нападкі. Вярнуўшыся дадому, Міша ледзь паспеў паабедаць, як у хату ўвалілася ўсё іхняе звяно.

— Давай, камандуй, што дзе рабіць! — агледзеў пакой Арэніч.

І адразу закіпела работа. Зазвінела піла ў руках Ігара Мальчыка і Валерыя Цецяронка. Арэніч калоў распілаваныя дровы. Рыма Дарафеева з Галяй Градоўскай прынеслі вады і прыняліся мыць падлогу.

— Усё на сёння? — спытаў Арэніч, калі работа была закончана. — Што-ж, мы здорава вінаватыя перад табой, але-ж... Чаму ты адразу не сказаў пра вочы?

Пеця прыбег да сябра ў той час, калі Міша сядзеў за сталом і пад дыктоўку Ігара Мальчыка пісаў.

— А наш угавор? — сумеўся Пеця.

— Далучайся лепш, ляснічы, — перапыніў яго Ігар. — Коскі ўгадваць будзем.

Так з дня ў дзень піонеры VII «А» прыходзілі да Мішы дадому, дапамагалі яму па гаспадарцы, займаліся. Не так проста было дагнаць клас. Хоць доктар выпісаў Мішу акуляры і цяпер можна было займацца нават вечарамі, але вельмі многа было прапушчана па рускай і беларускай мове ды і па другіх прадметах.

Міша з такой упартасцю сядзеў за ўрокамі, што Пеця іншы раз не вытрымліваў:

— Ты як хочаш, а я не магу больш. Памногу вучыцца і дактары забараняюць. Можа хопіць на сёння?

Але мішава настойлівасць захапляла і яго.

Набліжаўся канец другой чвэрці. Па ўсіх прадметах у Мішы стаялі добрыя адзнакі і нават пяцёркі. Павінна была яшчэ быць адна кантрольная па рускай мове.

У дзень дыктанта хваляваўся ўвесь клас. Арэніч па шчырасці нават шапнуў ім з задняй парты, калі настаўніца ўвайшла ў клас:

— Цяжкія словы я вам падказваць буду.

Пеця запытальна паглядзеў на сябра, але Міша адмоўна пакруціў галавой.

Дзіна Яфрэмаўна прачытала тэкст дыктанта, і Міша з палёгкай уздыхнуў. У памяці ён увявіў, дзе стануць патрэбныя коскі, працяжнікі, шматкроп'і. Ён бачыў, як, дапісаўшы сказ, на яго і Пецю кідаюць насцярожаныя позіркі Валя Паспартава, Рыма Дарафеева, Ігар Мальчык — увесь клас.

Пісаць дыктант закончылі за некалькі хвілін да званка. Рэбяты бачылі, як Дзіна Яфрэмаўна аддзяліла ад агульнай стопкі два сшыткі і адзін з іх пачала праглядаць.

— Мой, — шапнуў Пеця. — Памылка, яшчэ адна... Ой, загінуў я! — падскокваў ён на парце, калі чырвоны аловак настаўніцы апускаўся на сшытак.

— Што-ж, нядрэнна, Палілей,— усміхнулася Дзіна Яфрэмаўна. — Тры памылкі. Можна спадзявацца, што ў наступны раз іх менш будзе.

— Угу! — толькі і выгукнуў Пеця.

— А цябе, Шыла, віншую з чацвёркай. — Настаўніца абвяла вачыма клас. — Віншую і ўсіх вас, рэбяты.

**Бягомльская сярэдняя школа Мінскай вобласці.**

Пімен **ПАНЧАНКА**

# У Кіеве

Дзень добры, Кіеў, непаўторны Кіеў!
Я палюбіў твой воблік з даўніх дзён.
І вось ізноў тапалі трапяткія
Па-нада мной рассыпалі свой звон.

Яшчэ ў Дняпры мігцелі ціха зоркі,
Дымок ледзь-ледзь бруіўся ад вады,
Я з вышыні Владзімірскае горкі
Зноў аглядаў праспекты і сады.

І сэрца нешта сціснула да болю:
Сустрэўся, Кіеў, сёння я з табою
Пасля разлукі доўгай і цяжкой,
Таму і стаў радней мне воблік твой.

А мо' таму, што вырас ля ракі я,
Што шчодра воды у Дняпро нясе.
Пускаў калісь чаўнок — плыві у Кіеў!—
І плыў чаўнок на хвалях пакрысе.

А мо' таму, што у зямлянцы цеснай
Мне з Кіева таварыш ціха пеў
Пра ведзярэчка песню. Гэтай песні
Я падпяваў, хоць голасу не меў.

Тады адзін другога сагравалі
І дружбай, і ўспамінам.

А калі
Цішэй было на фронце — гаравалі
Аб нашай запалоненай зямлі.

Даўно разбіты вораг.
Нават каскі
Чужынцаў
Засмактаў дняпроўскі іл...
Хаджу я на світанні, як па казцы,
Па горадзе, і кожны дом мне міл.

Радзее змрок.
Зара плыве на Кіеў.
І ў гэтай урачыстай цішыні
Палаюць купал залаты Сафіі
І коннік на узды бленым кані.

А ўжо шуміць Крашчацік.
У праменні
Купаюцца высотныя муры,
І кідаюць карункавыя цені
Каштаны на уцеху дзетвары.

Мне люба гэта ўсё, ды не зайздрошчу
Я шчасцю кіеўлян.
Я проста рад

Хадзіць і любавацца кожнай плошчай,
Як Мінску рад мой украінскі брат.

Адна дарога ў нас і лёс адзіны,
І злучаны мы дружбаю навек,
Як злучаны Расія, Украіна
І Беларусь галлём дняпроўскіх рэк.



# Суворайцы



Дзень пагодны і праца спорыцца.
Толькі хто там так звонка пяе?
Вышлі ў парк на вучэнне сувораўцы,
Баявыя суседзі мае.

Я спяшу паглядзець на стройныя
Іх рады, на задор малады,
Зноў сябе адчуваю воінам,
Як калісьці ў былыя гады.

За радзіму адважна загінулі
Іх бацькі.
Для сваіх сыноў
Не сіроцкую долю пакінулі,
А гарачую, мужную кроў.

І радзіма, як маці руплівая,
Выбірайце, — сказала ім, — шлях,
Абы толькі былі шчаслівымі
Дзеці тых, што палеглі ў баях.

Слёзы матчыны... Сны трывожныя...
Перш чым стаць у сувораўскі строй,
Шмат разоў, пэўна, сніўся з іх кожнаму
Родны бацька, народны герой.

Я хацеў-бы, каб мірна і весела
У добрай працы прайшлі іх гады,
Самай мірнай жадаў-бы прафесіі
Ім, маім сябрам маладым.

Загадаў-бы на склад здаць пагоны...
Годзе марыць! Не час. Памаўчы.
Чуеш: грукаюць палігоны
За мяжою і ўдзень і ўначы?..

Напамінаюць магілы брацкія:
— Будзь гатовым і пільным будзь!
Чэсць салдацкую, славу бацькаву
Не заплямяць сыны, зберагуць.

# Пасля вечарынкі

Ноч красае маланкі,
Кажаны ловяць зоры.
Мы ідзем з вечарынкі,
Ні аб чым не гаворым.

Што маўчыш, дарагая,
Што цябе ўсхвалявала?
За шэсць год першы раз ты
Са мной танцавала.

Я да танцаў не здатны —
Мядзведжыя рухі,
Хоць былі у руках маіх
Родныя рукі.

Як хлапцы маладыя,
Мне так не злаўчыцца.
Гэтай справе складанай,
Знаць, позна вучыцца.

Калі шчыра прызнацца,
Мне крышку шкода,
Што з табою сустрэўся
Я ў сталыя годы.

Вось калі-б мне было
Так гадоў восемнаццаць,

Не сароміўся-б я
Табе ў нечым прызнацца.

Ты-б таксама прызналася,
Чым табе люб стаў.
І малолі-б да золаку
Шчыра мы глупства...

На франтах маладыя
Гады адшумелі,
Я прышоў да цябе
У салдацкім шынелі.

І не кляўся ні ў чым,
Не даваў абяцанкі,
Не сядзеў над ракою
З табою да ранку...

Ты ідзеш і маўчыш.
Можа я вінаваты?
— Будзе дождж, — адказала ты, —
Пойдзем дахаты.

Мільганула маланка
І ўмомант пагасла
У вачах — і тваіх, і маіх
Адначасна.

Гром раз'ярана грукнуў
Над намі ўжо недзе...
Пры святле бліскавіцы
Я што трэба разгледзеў.





А. С. Макарэнка.

М. Э. ФЕРЭ

# З УСПАМІНАЎ АБ А. С. МАКАРЭНКУ

У красавіку гэтага года споўнілася 15 год з дня смерці выдатнага савецкага педагога і пісьменніка Антона Сямёнавіча Макарэнкі. У сваёй «Педагагічнай паэме А. С. Макарэнка прысвяціў нямала старонак дзейнасці Мікалая Эдуардавіча Шэрэ (пад такім прозвішчам выведзены былі аграном Мікалай Эдуардавіч Ферэ, які працуе цяпер дацэнтам Маскоўскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі імя В. М. Молатава).

Па просьбе рэдакцыі М. Э. Ферэ напісаў нарыс аб днях сваёй работы разам з А. С. Макарэнкам у калоніі імя М. Горкага.

## 1. КВЕТКА АГАВЫ

Зіма 1924 года была снежнай. Палявыя работы пачаліся са спазненнем на 10—12 дзён. Рака Каламак, якая раздзяляла першую і другую калоніі, разлілася на некалькі кіламетраў, надоўга перарваўшы ўсялякую сувязь паміж імі.

Антон Сямёнавіч, накіроўваючы мяне аграномам у другую калонію, прадбачыў магчымасць паводкі і дапамогі на гэты выпадак не абяцаў.

— Сустрэнемся, калі вада спадзе, пасевы да гэтага часу ўжо ўзыйдуць. Гэта нават добра — лягчэй будзе праверыць, як працавалі рэбяты і выхавацелі. — Крыху падумаўшы, ён дадаў:

— Нялёгка будзе вам, але для будаўніцтва новага жыцця не цяжкасці страшныя, а недахоп волі, жадання, настойлівасці.

Аб прадстаячай праверцы «па ўсходах» я, зразумела, расказаў рэбятам і выхавацелям. Асабліва горача ўспрыняў гэтую навіну Братчанка, наш камандзір атрада, які даглядаў пяць худых конікаў і пару маладых бычкоў. Акрамя саломы і невялікага запасу вотрубей, у нас нічога не было, але вельмі часта я знаходзіў у кармушках рэшткі сена і нават аўса.

— Дзе ты раздабыў? — не раз пытаўся я ў Братчанкі.

— Я-ж ведаў, што вясна будзе, зімой назапасіў, — не міргнуўшы вокам, адказваў Братчанка.

Паміж Братчанкам і Бялкоўскім, камандзірам атрада, што працаваў на ворыве, сяўбе і баранаванні, часта ўзнікалі спрэчкі па самых розначстайных пытаннях. Вырашаць іх даводзілася мне. Невысокага росту, рухавы, Братчанка не ўяўляў сабе іншага жыцця, акрамя сельскага. Высокі і павольны Бялкоўскі, які вышаў з гарадскога асяроддзя, ігнараваў захапленне «сельскім». Ён марыў стаць інжынерам або артыстам. Агульным у гэтых людзей была хіба толькі шчырая павага да сваёй калоніі.

— І хто прыдумаў гэты хамут! — скоса пазіраючы на Братчанку, сказаў аднойчы Бялкоўскі. — Надзяюць яго дагары нагамі, варочаюць, толькі шыю каню вярэдзяць. А ці нельга прыдумаць хамут, які рассоўваецца. Закруціў гайку ключом — і гатова!

— Каню гайкі на шыі закручваць! — хваляваўся Братчанка. — Ды ён-жа жывая істота!..

«Мадэрнізацыю» хамута, паводле Бялкоўскага, прышлося, зразумела, адвергнуць.

Працавалі рэбяты з агеньком і сяўбу ранніх завяршылі ў тэрмін. Праверкі «па ўсходах», якую абяцаў Антон Сямёнавіч, па гэтай прычыне мы не баяліся. Але ўсё-ж аднойчы, калі мы пасля работы ляжалі на траве і хтосьці крыкнуў: «Антон Сямёнавіч», — усе падскочылі і на тварах рэбят можна было бачыць і радасць, і замяшанне. Трывога аказалася дарэмнай, яе памылкова выклікаў самы маленькі каланіст Пеця.

Работа ішла далей.

— Чым-бы яшчэ нам парадаваць Антона Сямёнавіча? — сказаў неяк Братчанка.

— Я, здаецца, прыдумала, — адказала Вара, якая дапамагала нашым кухарцы і прачцы, але ў гэты напружаны час працавала разам з намі на полі. — Давайце кветнік зробім.

У той-жа дзень на агульным сходзе я расказаў аб прапанове Вары, і рэбяты адзінадушна згадзіліся працаваць вечарамі па дзве гадзіны, каб расчысціць пляцоўку для кветніка. Работа закіпела, і на чацвёрты дзень клумба была гатова. Пасадка кветак часу многа не адняла. Слабым месцам клумбы была цэнтральная яе частка, якая ў першую чаргу кідалася ў вочы. Каб запоўніць пустое месца, пасадзілі там куст шыпшыны. Але ўсе разумелі, што гэта не тое, што патрэбна.

— Я дастану кветку, — сказаў Бялкоўскі.

— Дзе-ж ты дастанеш яе? — здзівіўся я.

— А у... сваёй цёткі. У яе вельмі многа кветак.

Праз некалькі дзён, калі я раніцай вышаў на двор, то адразу ўбачыў цудоўную агаву з велізарнымі тоўстымі лісцямі, якая была пасаджана на месцы шыпшыны. Клумба выглядала цяпер зусім інакш. Цётка Бялкоўскага падаравала калоніі сапраўды выдатную рэч. Цяпер было чым здзівіць Антона Сямёнавіча, і рэбяты з нецярпеннем чакалі яго прыезду.

Агляд калоніі Антон Сямёнавіч пачаў з палёў. Хоць ён нічога не сказаў, але было відаць, што работай ён задаволены.

— Дзе вы гэтую красуню дасталі? — спытаў Макарэнка, убачыўшы наш кветнік і ў цэнтры яго пышную агаву.

— А гэта цётка Бялкоўскага падаравала.

Антон Сямёнавіч гучна засмяяўся. Мне стала няёмка.

— Бялкоўскі не то што цёткі, а бацькі з маткай не памятае. Яны памерлі даўно...

Бялкоўскага не было пры гэтым аглядзе, ён чамусьці палічыў за лепшае не трапляцца на вочы Антону Сямёнавічу, якога, як казалі ў калоніі, «за нос не правядзеш».

Макарэнка адобрыў нашу ініцыятыву з кветнікам, і з гэтага часу кветкаводства атрымала ў калоніі шырокі размах. Тады-ж Антон Сямёнавіч агледзеў кароўнік і канюшню. Расказаць яму аб «запасах» сена і аўса, зробленых «з зімы» Братчанкам, я не адважыўся, памятаючы гісторыю з агавай.

У наступны прыезд Антона Сямёнавіча Бялкоўскаму ўжо не ўдалося пазбегнуць сустрэчы з ім. Вышаў ён з кабінета чырвоны, як рак. Сваю віну ўсе наступныя гады Бялкоўскі «выкупляў» старанннай працай. Паводзіны яго таксама былі бездакорнымі.

Мяне Антон Сямёнавіч папярэдзіў, каб у далейшым падарункі «цёткі», «дзеда», «дзядзькі» праходзілі толькі праз яго рукі.

Хутка была пабудавана аранжарэя, і самае пачэснае месца ў ёй адводзілася зімой агаве.

Прайшло два гады. У маі 1926 года мы пераязджалі з Палтавы ў Кураж, пад Харкаў. Уся наша маёмасць была прывезена на чыгуначную станцыю. Тут-жа красавалася і агава, перасаджаная ў вялікую драўляную кадку. Ёю любаваліся і пасажыры і чыгуначнікі.

Да Бялкоўскага, які кіраваў пагрузкай, падышоў усхваляваны садоўнік з мясцовага чыгуначнага саду.

— Дзе вы ўзялі гэтую кветку? Два гады назад у нас прапала такая-ж самая.

— Гэтая кветка ў нас ужо... дзесяць год, — адказаў Бялкоўскі. Я ўбачыў, як густая чырвань заліла твар юнака, але садоўнік, відаць, ні аб чым не здагадаўся.

## 2. ПЕРШЫ ТРАКТАР

— Што вы думаеце наконт трактара? — спытаў мяне ў адзін з вераснёўскіх дзён 1925 года Антон Сямёнавіч. Да гэтай размовы я быў падрыхтаваны. Аб трактарах пісалі газеты. Зрэдку нават можна было бачыць, як па прасёлачнай дарозе, што ляжала паблізу калоніі, переганялісь трактары. Цікавасць рэбят да сталёвых коней была незвычайная. Вечарамі не раз узнікалі размовы аб трактары, прычым рэбяты выказвалі адзінадушнае жаданне набыць яго.

У сельскай гаспадарцы калоніі хоць і былі некаторыя дасягненні, але мелася яшчэ і многа недахопаў, пазбавіцца якіх можна было толькі пры дапамозе механізацыі. У напружаныя перыяды сельскагаспадарчых работ прыкметна адчуваўся недахоп рабочай сілы. А гэта, у сваю чаргу, затрымлівала арганізацыю надзвычай патрэбных нам майстэрняў — дрэваапрацоўчай і слясарнай. Таму на пытанне Антона Сямёнавіча я, не задумваючыся, адказаў:

— Чым хутчэй мы набудзем трактар, тым лепш. Але-ж трэба навучыцца ім кіраваць...

— Рэбяты растуць, — задумліва адказаў Макарэнка. — Хутка мы павінны даць шмат каму пуцёўку ў жыццё. Краіна будуе сваю індустрыяльную базу, тэхніка ўсё больш насычае і сельскую гаспадарку. Я ўпэўнены, што праз дзесятак год не пазнаеш ні горада, ні вёскі. Веданне трактара будзе пуцёўкай у жыццё шмат каму з нашых рэбят...

У той-жа вечар на агульным сходзе каланістаў было пастаўлена пытанне: патрэбен нам трактар ці можна абыйсціся жывым цяглом? Абмяркоўваць гэтае пытанне не прышлося. Ад гучнага «ура» аж зазвінелі шыбы. Братчанку, заядламу аматару коней, кінулі:

— Цяпер твае коні будуць у клубе газеты чытаць...

Камандзір атрада на гэта добрадушна адказаў:

— Маім коням проста лягчэй стане. А работы ім хопіць, не хвалюйцеся.

Назаўтра паявіліся карыкатуры. На адным малюнку было паказана, як трактар, за рулём якога сядзіць каланіст Беленькі, перамагае тройку коней, дзе за фурмана на козлах Братчанка.

Але набыць трактар было не так проста. Пабудова свінарніка, аранжарэі патрабавала сур'ёзных выдаткаў з касы. Пакупку трактара прышлося часова адкласці. Мы ўсё-ж вырашылі неадкладна распачаць падрыхтоўку трактарыстаў, бо былі ўпэўнены, што рана ці позна трактар у нас будзе.

Памяшканне ў Трыбах пуставала, але лічылася за намі. Украўтапрамгандаль у гэты час прыступіў да арганізацыі трактарных баз і курсаў трактарыстаў. У выніку перагавораў, калонія перадала памяшканне ў Трыбах для размяшчэння ў іх курсаў, а Украўтапрамгандаль за гэта абавязаўся падрыхтаваць шэсць трактарыстаў з ліку выхаванцаў калоніі.

Кандыдатуры курсантаў абмяркоўваліся вельмі ўважліва на совеце камандзіраў. Калі пяць кандыдатур былі назначаны, Антон Сямёнавіч заявіў:

— У адносінах шостай кандыдатуры ў мяне ёсць папярэднія меркаванні. Вось закончаць нашы рэбяты курсы, вернуцца ў калонію, мы да таго часу набудзем трактар. Хто-ж будзе кіраваць нашай трактарнай брыгадай?

— Мікалай Эдуардавіч, — разадаліся галасы рэбят. На момант усталявалася цішыня. Усе глядзелі ў мой бок і чакалі адказу. Я разумеў, што майму адказу Антон Сямёнавіч надае немалое значэнне.

— Не магу ўзяцца за такую справу, — адказаў я. — Няма ў мяне ведаў у трактарнай справе. Але калі вы пашлеце мяне на курсы разам з рэбятамі, тады іншая справа...

Так я, аграном калоніі імя Максіма Горкага, стаў курсантам школы трактарыстаў Украўтапрамгандлю, і з таго часу мая дзейнасць пайшла ў кірунку механізацыі сельскай гаспадаркі.

У канцы зімы курсы былі закончаны і экзамены па канструкцыі і кіраванню трактарам здадзены. Усе шэсць курсантаў атрымалі «посвидчення» на права кіравання трактарам. «Посвидчення» за № 281 для мяне не менш дарога сёння, чым іншыя атэстаты і дыпломы. З ім звязаны самыя дарагія ўспаміны аб Макарэнку, які даў мне накіраванне ў самую цікавую галіну сельскагаспадарчай вытворчасці.

Набыць трактар у Палтаве нам не ўдалося. Вырашылі гэтае пытанне мы толькі праз год, вясной 1927, пасля пераезду калоніі ў Куражж. Прыняць трактар і даставіць яго ў калонію даручылі старшаму каланісту Беленькаму. Як толькі пачуўся гул трактара, усе рэбяты выбеглі насустрач. Выйшаў і Антон Сямёнавіч і амаль усе выхавацелі. Беленькі на вышэйшай хуткасці падвёў трактар да клуба і адрапартаваў аб прыбыцці. Прыняўшы рапарт, Антон Сямёнавіч сказаў рэбятам некалькі слоў. Ён гаварыў аб тым, што атрыманне трактара азначае новы этап у жыцці калоніі, этап шырокай механізацыі.

Наш трактар абслугоўваў не толькі калонію, але і суседнія калектыўныя гаспадаркі. Там мы выконвалі найбольш ёмкія работы: ворыва, культывацыю, малацьбу.

Нашы сябры з Дзяржпалітупраўлення, жадаючы нам дапамагчы, хутка падаравалі нам другі трактар маркі «Запарожац». Машына гэтая вызначалася незвычайнай прастатой канструкцыі. Але, на жаль, хібаў у машыне было больш, чым пераваг. Каб пад'ехаць да плуга заднім ходам, махавік трэба было запусціць у адваротны бок, на што затрачвалася іншы раз 5—6 хвілін. «Запарожац» да ўсяго гэтага «плаваўся» самым сапраўдным чынам. Згусткі незгарэўшай нафты выляталі з выхлапной трубы і падалі на трактарыста. Трактар меў яшчэ адзін недахоп: ён быў на трох колах і вельмі часта падаў на полі. Прышлося «Запарожац» зняць з палявых работ і паставіць у майстэрню, дзе ён заменяў рухавік.

Нашы трактарысты хутка пайшлі на вытворчасць, у рабфакі. Застаўся толькі Беленькі, які быў прызначаны інструктарам. Кожны год ён падрыхтоўваў 5—6 новых трактарыстаў. Сярод іх быў і Котаў, які пазней стаў інжынерам-механікам сельскай гаспадаркі.

У чэрвені 1940 года Котаў абараніў дыплом, а я — кандыдацкую дысертацыю. Сустрэўшыся пасля абароны, мы ўспомнілі добрым словам нашага лепшага друга і настаўніка Антона Сямёнавіча Макарэнку.



Мал. І. Давідовіча.

Тарас ХАДКЕВІЧ

# Першае даручэнне

Апавяданне

Той восенню, калі Валя Гулевіч стала васьмікласніцай, напярэдадні Кастрычніцкіх свят яе прынялі ў комсамол.

Якая гэта ўрачыстая і радасная падзея ў жыцці кожнага хлопца і кожнай дзяўчыны — уступленне ў комсамол! Стане Валя дарослай, выйдзе на самастойны шлях жыцця, пражыве многа і многа год, накопіцца ў яе вялікі багаж уражанняў, успамінаў, вопыту, але ўспамін пра той дзень, калі яна стала комсамолкай, застанецца ў памяці свежым на ўсё жыццё.

Пранікліва, прыветлівымі і радаснымі вачыма глядзелі на яе сяброўкі, калі яна стаяла ў камітэце комсамола і адказвала на пытанні. Яна была ў школьнай карычневай сукенцы з белым каўнерыкам і ў чорным фартушку, каштанавыя косы былі старанна заплецены, і ўся яна выглядала нейкай асабліва акуратнай. У пакоі сядзелі знаёмыя вучаніцы, не было нікога чужога, а Валя, адказваючы, чырванела і блыталася. Нейкая неадчэпная і дзіўная думка непакоіла яе: вось заўважаць, што яна такая сарамлівая і нерашучая і адмовяць у прыёме.

Але адмовіць ёй ніхто не збіраўся. Калі прачыталі рашэнне камітэта, ёй паціскалі руку, віншавалі яе, і ёй здалося, што яна адразу вырасла на цэлую галаву, пасталела, і ў яе з'явіліся крыллі.

Так, нібы на крыллях, ляцела яна ў гэты вечар дахаты. Па-вячэрняму шумлівымі былі гарадскія вуліцы. Людзі спяшаліся кожны па сваёй справе, а Валі думалася, што ўсе сустрэчныя пазіраюць на яе, усміхаюцца ёй, радуюцца за яе, і ад гэтага было так хораша, так светла на сэрцы. Вось і знаёмы пад'езд высокага белага дома. Валя бегла па прыступках лесвіцы, не заўважаючы паверхаў, ледзь не праміну́ла і дзвярэй сваёй кватэры. Спынілася, пастукала, і не паспелі адчыніцца дзверы, як яна галасна крыкнула маці і старэйшаму брату:

— Можаце павіншаваць мяне, мама і Міша! Я — комсамолка!

Праўда, не ўсё ўжо так гладка і абышлося ў час прыёму. Ніна Якаўлева, класны комсорг, нізенькая рыжавалосая дзяўчынка ў акулярах, сказала ў адрас Валі на пасяджэнні камітэта комсамола:

— Дрэнна ўсё-такі, што ў Гулевіч ёсць ужо ў гэтым годзе дзве тройкі...

— Выправіць, — добразычліва азваўся нехта другі. — Хто з нас гарантаваны ад тройкі...

— І потым, — не зважаючы на рэпліку, сказала далей Ніна, — яе цяжка прыцягнуць да грамадскай работы. Усё, кажа, занятая вельмі, не мае часу.

— І яшчэ ў яе часам праяўляецца залішняя фанабэрыстасць і самаўпэўненасць... — Хто сказаў гэта, Валя не заўважыла, яна яшчэ больш пачырванела і апусціла вочы.

Устала тады Лідзія Сяргееўна, старшая піонерважатая школы, і, як заўсёды, з спакойнай упэўненасцю, выразна і разам з тым мякка, прагаварыла:

— Ёсць, зразумела, у Гулевіч і недахопы — не без гэтага. Але, я памятаю, яна была ў шостым «Б» класе нядрэнным старшынёй совета атрада. Вучаніца яна здольная, старанная, а стаўшы комсамолкай, адчуе большую адказнасць і перад сабой і перад таварышамі. З часам-жа мы знойдзем для яе належную нагрузку.

Валя з удзячнасцю паглядзела на Лідзію Сяргееўну. Якая яна слаўная і разумная! З ёй можна падзяліцца самымі запаветнымі думкамі, яна заўсёды зразумее, падтрымае, параіць, калі што трэба. Ды і прыгожая яна ў гэтай чорнай шаўковай сукенцы, да якой так падыходзіць яркі піонерскі гальштук!

Заўвагі сяброўак у адрас Валі былі справядлівыя — Валя добра разумела гэта. Але навошта было іх рабіць у такі ўрачысты для яе момант? Гэта крыху псавала святочны валін настрой, але хутка непрыемнасць, выкліканая заўвагамі, знікла, патанула ў агульнай прыўзнятасці, у адчуванні той радасці, перад якой здаецца мізэрным усё астатняе. Што-ж да нагрузкі, дык Валя гатова была цяпер горы варочаць. Няхай даручаюць самае цяжкае, самае адказнае — яна справіцца, у гэтым не можа быць ніякага сумнення!

Ды, уласна кажучы, і даручэнняў такіх няма ў школе, якія Валя лічыла-б непасільнымі для сябе. Ну, што, напрыклад? Член рэдкалегіі класнай насценгазеты, староста класа, староста якога-небудзь з школьных гурткоў. Або даручаць зрабіць інфармацыю пра апошнія міжнародныя падзеі. Або прымацуюць да дзяўчынкі, якая адстае ў вучобе. Валя перабірала ў думках усе галіны школьнага жыцця і нічога незнаёмага не знаходзіла. Яна восьмы год вучылася ў гэтай-жа школе, і калектыў школы здаўна ўжо быў для яе родным.

Камсамольскі сход зацвердзіў рашэнне камітэта аб прыёме Валі ў комсамол. Праз некалькі дзён зацвердзіла гэта і бюро райкома комсамола. Валя атрымала білет і прычапіла да сваёй форменнай сукенкі комсамольскі значок.

— Ну, цяпер ты ў мяне ў актыве, Валя, — сказала ёй Ніна Якаўлева. — Я спадзяюся на тваю падтрымку ва ўсіх нашых пачынаннях.

— Зразумела, — паважна адказала Валя. — Як-жа інакш...

Між тым першае сур'ёзнае даручэнне, або, як па звычцы звалі ў школе, нагрузку, яна атрымала не ад Ніны, якую, дарэчы, недалюблівала ў душы — лічыла яе выскачкай, дзяўчынкай рэзкай, якая любіць крытыкаваць усякага, абы была хоць самая нязначная прычына. Аб нагрузцы загаварыла з Валяй аднаго разу ў час вялікага перапынку Лідзія Сяргееўна. Яна паклікала Валю ў настаўніцкі пакой і, знайшоўшы там найбольш ціхае месца ў кутку, пасадзіла яе на крэсла насупраць сябе.

— Вось што, Валя, — сказала Лідзія Сяргееўна, шчыра пазіраючы ў вочы дзяўчынкі. — У камітэце комсамола ёсць думка прызначыць цябе важатай піонерскага атрада ў шостым «Б» класе.

Гэта было нечаканым для Валі. Думаючы аб нагрузках і даручэннях, яна чамусьці забылася аб піонерах у сярэдніх і малодшых класах. Яна і сама да апошняга часу была піонеркай, але, рыхтуючыся да ўступлення ў комсамол, неяк астыла да піонерскай работы, хоць знешне і не паказвала выгляду: піонерскія зборы яна наведвала, аднак актыўнага ўдзелу ў іх не прымала, улетку нават не захацела паехаць у піонерскі лагер. «З года ў год адно і тое-ж, — думала часам Валя.— Не ўсё-ж жыццё быць піонеркай».

А тут ёй прапануюць стаць піонерскім кіраўніком. З аднаго боку, гэта прываблівала тым, што ёй аказваецца высокае давер'е, а з другога — бянтэжыла.

— Там-жа, Лідзія Сяргееўна, ёсць піонерважатая. Здаецца, Ліля Сінцова з восьмага «А», — прыгадала Валя.

— Лілю Сінцову выбралі класным комсоргам, ну, а дзве нагрузкі для яе — гэта ўжо залішне...

— Добра, не пярэчу, — згадзілася Валя.

— Заўтра ў шэсць гадзін у нас пасяджэнне камітэта комсамола. Абавязкова прыходзь, там аформім усё, а потым мы з табой і Галінкай распрацуем план на бліжэйшы час, абмяркуем усе пытанні.

— А хто гэта Галінка?

— Старшыня совета атрада шостага «Б».

— А-а...

— А хіба ты не ведаеш яе?

— Не.

Дзе Валі ведаць было шасцікласніц, ад якіх аддзялялі яе два гады вучобы, — што ў яе, здавалася ёй, магло быць агульнага з імі?..

Галінка аказалася шустрай, востравокай дзяўчынкай, вельмі таварыскай, кемлівай і энергічнай. Складаць план з ёй было лёгка — у яе знайшлося безліч прапаноў і, калі яна іх уносіла, Валя толькі ківала галавой у знак згоды. Лідзія Сяргееўна час-ад-часу папраўляла Галінку, але асцярожна і ласкава — відаць, яна яе моцна паважала і любіла.

«Ну, з Галінкай я цяжкасцей у рабоце не сустрэну», — упэўнена падумала Валя.

Шосты «Б» клас, як дазналася Валя са слоў Галінкі і Лідзіі Сяргееўны, быў адным з першых у школе. Ён быў-бы наогул прыкладным, каб не дзве вучаніцы, у адной з якіх былі тройкі, а ў другой у дадатак да троек, — двойка па алгебры. Імі трэба будзе заняцца асобна, і калі сяброўская дапамога не падцягне іх, прыдзецца вынесці пытанне на збор атрада.

— Толькі не адразу, Валя, — папярэдзіла Лідзія Сяргееўна, — і не занадта рэзка, каб ты не ўзбудзіла іх супраць сябе. Спярша пагавары з імі, высветлі прычыны іх адставання.

— Разумею, Лідзія Сяргееўна, — нецярпліва перабіла старшую піонерважатую Валя, падумаўшы: «Яшчэ і ў такіх дробязях яна мяне вучыць».

— О-о, Валя і Нэла дзяўчынкі ў нас занозлівыя, — сказала Галінка, — языкі ў іх дужа спрытныя, а вось вучацца абедзьве дрэнна.

Першы збор атрада, на якім прысутнічала Валя, адкрыла Галінка. Больш за трыццаць піонерак сядзелі за партамі ў сваім-жа класе. Як агеньчыкі, чырванелі гальштукі на фоне белых і цёмных фартушкоў, стракацелі перад вачыма рознакаляровыя істужкі, уплеценыя ў валасы. Больш за трыццаць з лішнім пар вачэй — карых, блакітных, шэрых, сініх, адны з увагай і цікаўнасцю, другія з хітрынкай, трэція з усмешкай і задорам — былі накіраваны на Галінку. Але Валя адчувала іх позіркі і на сабе: бясспрэчна, шасцікласніцы дачуліся аб яе прызначэнні і цікавяцца ёю.

Лідзія Сяргееўна адрэкамендавала Валю атраду:

— Камітэт комсамола прыслаў вам новую важатую замест Лілі Сінцовай, якая, як вам вядома, атрымала другую нагрузку. Не прысутнічае-ж яна сёння таму, што хворая... Знаёмцеся вось: Валя Гулевіч, комсамолка, вучаніца восьмага «Б» класа. Паўтара года назад яна сама вучылася ў гэтым самым класе і была старшынёй совета атрада...

Да Валі даляцелі нясмелыя, але вясёлыя галасы:

— Цікава...

— Выходзіць — наша зямлячка...

Галінка пастукала алоўкам па стале, і ўсе сціхлі.

— Я думаю, — закончыла Лідзія Сяргееўна, — што вы падружыцеся з Валяй, і ваш клас з яе дапамогай стане перадавым у школе як у вучобе, так і ў арганізацыі адпачынку.

— Абавязкова, — цвёрда вымавіла адна з дзяўчынак.

— Каб не Валя і Нэла са сваімі тройкамі і двойкамі, — кінула з месца другая, — дык мы даўно былі-б перадавікамі...

— Вы толькі мяне з Валяй і бачыце, — прагаварыла з задняй парты чарнявая дзяўчынка. — Вочы мы вам намазолілі.

— Супакойся, Нэла! — заклікала яе да парадку Галінка. — Не пра цябе сёння размова ідзе...

— А чаго да нас вечна чапляюцца, — звонка выгукнула суседка Нэлы, — папракаюць тройкамі. Тройкі, тройкі!.. Ці даўно сама Галінка стала пяцёрачніцай...

— Ціха, рэбяты! — супакоіла іх нарэшце Лідзія Сяргееўна. — Не гэтаму-ж сёння прысвечаны збор.

Абмеркаванне атраднага плана прайшло спакойна. Гаварыла і Валя аб тым, як лепш правесці тое ці іншае мерапрыемства. У класе стаяла цішыня, і гэта падбадзёрвала Валю: слухалі яе ўважліва, яна старалася не хвалявацца, выкладаць свае думкі коратка і выразна. Былі ўнесены і дадаткі ў план: у бліжэйшыя выходныя дні правесці паход у Музей Айчыннай вайны, зрабіць лыжную вылазку за горад, схадзіць калектыўна на каток. Валя засталася задаволенай гэтым першым зборам атрада з яе ўдзелам і, развітваючыся пасля збору з Лідзіяй Сяргееўнай, сказала ёй:

— Нічога складанага ў гэтай рабоце няма. Усё гэта мне знаёма. Спраўлюся.

— Вельмі буду рада за цябе, — адказала Лідзія Сяргееўна.

Прышоўшы дахаты, Валя пахвалілася сваім прызначэннем маці і Мішу. Міша ў гэтым навучальным годзе заканчваў дзесяты клас, ён быў заўсёды заклапочаны і заняты, у валіны справы асабліва не ўмешваўся, але на гэты раз выслухаў яе з увагай і ўсяго толькі зазначыў:

— Глядзі, нагрузка гэта сур'ёзная і адказная. Паставішся да яе лёгка — праваліўшся...

— От-жа, скажаш яшчэ!.. — зморшчылася Валя.

— А потым, — дадаў Міша, — паменш чытай усялякай старызны, што трапляецца пад руку. Спорту аддала-б хоць крыху ўвагі.

— Ах, патрэбен мне гэты спорт...

— Ну, глядзі сама, — стаўшы абыякавым да яе пярэчання, сказаў Міша і пайшоў да свайго століка, заваленага кнігамі, сшыткамі, аркушамі паперы з нейкімі чарцяжамі.

Пазней Валя зразумела, што дарэмна не надала значэння словам Мішы. Жыла яна цяпер інакшымі інтарэсамі, чым некалі, у шостым класе. У яе ўжо былі і свае сакрэты з некаторымі бліжэйшымі сяброўкамі, і кніжкі без вокладак, з абарванымі старонкамі, зачытаныя некім даўно-даўно іададзеныя Валі на дзень-два, і вясёлыя зборы на кватэры ў каго-небудзь з сябровак з танцамі пад патэфон. Але паколькі Валя вучылася ўвогуле добра, дома на гэта не звярталі ўвагі, і сама Валя лічыла ўсё гэта звычайным.






## ПА ПУЦЁЎЦЫ РАЙКОМА

Маленькага росту, нічым не прыкметны з выгляду трактарыст падыйшоў да свайго трактара і яшчэ раз агледзеў яго. Магутны «С-80», як і іншыя трактары МТС, быў гатовы да выхаду ў поле. Ён стаяў першым у калоне, і да яго кабіны быў прымацаваны чырвоны сцяг. Маракі пра яго маглі-б сказаць — флагман!

Трактарыст скінуў з сябе ватнік, расправіў плечы і, усміхнуўшыся сваім думкам, палез у кабіну. Уключыў запальванне, праверыў рычагі. Праз секунду ён вышаў з кабіны на левую гусеніцу з заціснутай у руцэ бліскучай металічнай ручкай. Ён прыладзіў ручку да вала пускавога матора.

— Заводзіць?!

— Заводзь! — крыкнулі знізу.

І па сядзібе МТС разнёсся магутны рокат матора.

Пасля праверкі гатоўнасці машын да веснавых работ прайшло нямала часу. У калгасах пачалі рыхтавацца да сустрэчы трактарыстаў. З «Чырвонага партызана» пазванілі ў Негарэльскую МТС:

— Каго да нас прышлеце ў гэтым годзе? Вельмі пажадана, каб старшым зноў быў Анатоль Пархімовіч...

— Спадабаўся?—пыталі з МТС.

— Вельмі. Выдатна працаваў хлопец.

— Не прыедзе! — адказалі з МТС. — Ні старшым, ні малодшым не прыедзе. Учора здаў трактар.

А чалавек, аб якім гаварылі, сядзеў у гэты час у паўтаратонцы, якая накіроўвалася ў Дзяржынск. Ён ехаў атрымаць пуцёўку, каб па закліку Партыі прыняць удзел у вялікіх работах на цалінных землях.

Сібір! Якая яна цяпер?

Анатолю Пархімовічу давялося жыць у Сібіры ў эвакуацыі. Ён палюбіў гэты суровы і багаты край. Цяпер Анатоль едзе туды працаваць. Ён едзе для вялікай службы Радзіме, едзе аддзякаваць ёй за ўсё: за захаванае жыццё, за пачэснае права ўдзельнічаць у вялікіх работах, за права быць героем нашых дзён!

Ён паспеў падняць сцяг вясны над палямі Беларусі і высока пранясе яго на новых землях.

Думкі пра сваю будучыню пакуль не турбавалі яе — яна была ўпэўнена, што ўсё, што яна задумае, удасца выканаць, умовы ў яе для гэтага ёсць. Так і сваю новую нагрузку яна ўспрыняла як звычайную, будзённую справу, якая не патрабуе лішняга напружання, затраты лішняй энергіі.

Разам з Галінкай Валя падрыхтавала і правяла цікавы збор атрада, прысвечаны паводзінам піонера. Удзельнікі збору чыталі вершы і ўрыўкі з твораў, у якіх пісалася аб піонерах, успомнілі юных герояў Вялікай Айчыннай вайны, прыводзілі прыклады з жыцця сваёй школы. Удала таксама прайшла і экскурсія ў музей. Лідзія Сяргееўна павіншавала Валю з першым поспехам у новай рабоце, і Валя прыняла гэта, як заслужанае. Яна таіла ўжо думку аб тым, як яе адзначаць на комсамольскім сходзе, будуць ставіць у прыклад, напішуць аб ёй у насценгазеце.

Але тут, як на тое, усё неспадзявана пайшло навыварат, ды так шпарка, што Валя не паспела агледзецца.

Пачалося гэта з загараднай лыжнай прагулкі, калі Валя раптам убачыла, што яна, па сутнасці, і хадзіць на лыжах не ўмее ў параўнанні з гэтымі жвавымі, быстраногімі шасцікласніцамі. Яна некалькі разоў упала, часта спынялася, папраўляла раменьчыкі на лыжах, а дзяўчынкі, разбіўшыся купкамі, галёкалі ўжо воддаль, ляцелі з горак наперагонкі з ветрам — снег так і курэў за імі следам. Валя-ж замарылася. Галінка, якая ўвесь час была з ёю побач, са здзіўленнем пазірала на яе.

— Я, здаецца, нагу крыху звіхнула, вось няшчасце, — разгублена сказала Валя. — Ты, Галінка, дагані дзяўчынак і глядзі, каб там было ўсё ў парадку. Збор вунь на тым лясным ускрайку. І я туды прыеду, вось толькі адпачну...

Некалькі дзяўчынак дагналі Валю, якая ледзь пасоўвалася на лыжах, хоць нічога ў яе і не балела.

— Што такое, Валя? Нага?.. Ай-яй-яй! — спачувалі дзяўчынкі, і ў іх спачуванні было столькі шчырасці, што Валі стала няёмка. — Можа дапамагчы чым-небудзь?

— Не, нічога не трэба, дзяўчаткі. Адпачну хвілін пяць — і пройдзе. Не зважайце на мяне...

Як-бы там ні было, а настрой у юных лыжніц быў сапсаваны гэтым выпадкам. Галінка праз якую гадзіну сабрала ўсіх дзяўчынак і прывяла на ўскраіну лесу, дзе іх чакала Валя. Вярталіся ў горад хмурыя, хоць Валя і старалася іх як-небудзь развесяліць. Нехта зацягнуў песню, але астатнія не падтрымалі, і песня хутка заглухла.

Няўдача з лыжнай вылазкай не занепакоіла Валю. «Ці мала што можа здарыцца з кожным... — разважала яна. — Дзяўчынкі хутка забудуцца на гэта». Ды больш яна іх і не павядзе на лыжах. Але вось як быць з катком? Дамовіліся-ж у наступную нядзелю сабрацца на гарадскім дзіцячым катку, арганізаваць там спаборніцтвы і гульні. А Валя сёлета і на катку ні разу не была, ды і ў мінулыя гады не вельмі захаплялася канькамі.

Каб не паўтарылася тое, што было ў час лыжнай вылазкі, Валя прышла на каток без канькоў. Дзяўчынкі, якія ўжо чакалі яе, здзівіліся, і Валя, заўважыўшы гэта, растлумачыла:

— Нага яшчэ баліць, баюся, каб больш не пашкодзіла... Ну, я і так прыму ўдзел — буду суддзёй...

Але калі пасля спаборніцтваў на хуткасць, якія судзіла Валя, Галінка завяла на ільду карагод, наладзіла розныя гульні і дзяўчынкі прышлі ў захапленне ад іх, Валя засталася адна. Рабіць ёй не было чаго. А дзень выдаўся сонечны, марозны, лёд блішчэў, як чыстае шкло, у якім адлюстроўвалася неба. На катку было так шумна, гаманліва, весела, што Валі стала не па сабе. Яна сумавала і зайздросціла гэтым дзяўчынкам, што кружыліся на каньках, даганялі адна адну, звонка смяяліся. Яна не вытрымала і, сказаўшы Галінцы, што ёй нездаровіцца, пайшла дадому.

Яна адчула, што выклікала ў дзяўчынак падазронасць; яны, магчыма, не вераць ёй і ўспамінаюць Лілю Сінцову — майстра на ўсе рукі: тая і на каньках, і на лыжах, і ў гімнастычных практыкаваннях, і ў гульні ў валейбол, і ў розных выдумках паспаборнічае з любым. А яна, Валя?..

Усё ў апошні час, як знарок, складалася супраць яе. Аднаго разу ўвечары яна з бліжэйшымі сваімі сяброўкамі пайшла ў кіно (ішоў новы замежны фільм) і толькі вярнуўшыся адтуль успомніла, што на гэты вечар было прызначана пасяджэнне совета атрада. А назаўтра Валя атрымала тройку па фізіцы і вымушана была выслухоўваць дакорлівыя словы Ніны Якаўлевай:

— Ты-ж, Валя, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і піонерважатая. Дазнаюцца аб тваіх тройках шасцікласніцы — увесь аўтарытэт твой у іх прападзе.

— Не дазнаюцца! — са злосцю адказала Валя. — А па-другое, якая ім справа да гэтага?..

Разважаючы так, Валя памылілася зноў. Якраз на чарговым зборы атрада падагульнялі паспяховасць класа ў трэцяй чвэрці. Лідзія Сяргееўна недзе была занята, на зборы прысутнічала класны кіраўнік, выкладчыца матэматыкі Марыя Антонаўна, жанчына пажылая і ўроўнаважаная. Як толькі загаварылі аб недахопах у вучобе, адразу-ж узнікла пытанне аб Волі і Нэле, якія па-ранейшаму цягнулі клас назад. Выступіла і Валя. Яна гаварыла горача і, відаць, закранула дзяўчынак за жывое.

— А што ў самой ёсць тройкі, дык Валя маўчыць, — кінула, як звычайна, з задняй парты Нэла.

— Сціхні, Нэла, не перабівай, — пастукала алоўкам па стале Галінка.

— А калі гэта праўда, — крыкнула суседка Нэлы Воля.

Тут Валя ўпершыню заўважыла, што ў Нэлы і Волі ёсць прыхільнікі, бо неўзабаве пачуліся галасы:

— Трэба не толькі ў другіх, а і ў сябе бачыць недахопы.

— Чаму Валя сарвала совет атрада?

— Можа хварэла?

— У кіно хадзіла...

— Хто гэта сказаў? — рэзка спытала Валя, акідваючы разгневаным позіркам клас.

— Я... — з месца ўстала нізкарослая дзяўчынка Зіна, якую Валя ведала, як самую ціхую ў класе. — Мне Алёнка, мая старэйшая сястра гаварыла...

— Сядай! — перапыніла яе Валя. — Я не абавязана вам даваць справаздачу аб сваіх учынках, — нечакана для самой сябе вырвалася ў яе, і гэта выклікала яшчэ большае ўзбуджэнне ў класе.

Колькі Галінка не заклікала да парадку, шэпт, шум, смешкі не заціхалі. У Валі ярка заірдзеліся шчокі, на вачах навярнуліся слёзы. Яна ўжо гатова была выбегчы з класа, але тут на дапамогу прышла Марыя Антонаўна.

— Ціха, дзеці! — узняла руку настаўніца. — Я прапаную перанесці збор на заўтра. Сёння вы, відаць, стаміліся і ніякай добрай размовы ў нас не адбудзецца.

— Згодны!.. Правільна...

Валя кінулася ў дзверы, бягом спусцілася ў раздзявалку і, не развітаўшыся ні з кім, выбегла на вуліцу. У горле завяз нейкі камяк, слёзы так і гатовы былі хлынуць з вачэй, але яна стрымлівала іх, сарамячыся сустрэчных. Вуліцы былі такія-ж ажыўленыя, як і ў той вечар, калі яна бегла з пасяджэння камітэта комсамола, акрылёная, з адным урачыстым выразам на вуснах: «Я — комсамолка!» Але цяпер ёй здавалася, што ўсе сустрэчныя глядзяць на яе з дакорам, здзіўлена ківаюць галовамі, асуджаюць яе, і кожны з іх нібы хоча сказаць ёй: «Вось ты якая? Так табе і трэба!»

«Сама вінавата. Сама вінавата ва ўсім, — паўтарала Валя, падыходзячы да свайго дома. — А калі вінавата, дык і раскажу аб гэтым і Лідзіі Сяргееўне і на пасяджэнні камітэта комсамола».



— Вы хочаце набыць падарунак?



— Сюрпрызныя кубкі?.. Не?



— Тады паглядзіце срэбраныя вырабы.



— Выбралі сервіз?..



— Калі ласка, вось вам чэк у касу.

На здымках: прадаўшчыца-комсамолка Лора Бандарэнка.

# ПАКУПНІК ПАЙШОЎ ЗАДАВОЛЕНЫ







У сталіцы нашай рэспублікі ёсць магазін, дзе працуе комсамольска-маладзёжны калектыў.

Сталыя жыхары Мінска і шматлікія госці з другіх гарадоў і краін, што прыязджаюць сюды, добра ведаюць гэты магазін. Тут можна набыць музычны інструмент і духі, новыя патэфонныя пласцінкі і хрустальныя вырабы, шаўковую бялізну, пылесос і шмат іншых патрэбных рэчаў. Пакупка старанна ўпакаванай даецца вам з ветлівым запрашэннем наведаць магазін яшчэ. Па тэксту на ўпакоўцы сустрэчны можа не здагадвацца, а сцвердзіць, што вы былі ў магазіне «Падарункі».

Падарунак — не зусім звычайная пакупка. Кожны прыгадае выпадкі, калі задаваў сабе пытанне: «Што-ж, усё-ж такі лепш падараваць?»

І вось уявіце сабе становішча прадаўца гэтага магазіна. Раніцай, роўна ў дзевяць гадзін, да прылаўка падыходзяць адразу некалькі чалавек.

— Скажыце, у вас ёсць што-небудзь гэтакае... для падарунка... бабульцы?

— Калі ласка! Духі «Алмаз» — мужчынскія ці жаночыя?

— Дзяўчынка, прайграйце, калі ласка, семдзесят трэцюю пласцінку. — Прадаўшчыца ставіць пласцінку: «Шчасце маё я нашоў у сяброўстве з табою!..» — Не! Не тое! Калі ласка, што-небудзь больш сур'ёзнае.

— Ці няма ў вас аўтаручкі? Але каб перад карыстаннем яе не патрэбна было трэсці!

Нялёгка выбраць рэч для падарунка. А трэба-ж, каб пакупнік не пайшоў засмучоны і незадаволены!

І калектыў магазіна «Падарункі» робіць усё, каб задаволіць пакупнікоў.

Але калі-ж бывае задаволены пакупнік?

На гэтае пытанне кожны працаўнік магазіна адказвае па-свойму.

— Добра працаваць, калі ў вялікім выбары ёсць вырабы шклянога завода «Нёман»!.. Пакупнік бывае нязменна задаволены трыкатажнай бялізнай фабрыкі «КІМ»!.. Духамі «Срэбраны ландыш»!.. Скуранымі таварамі фабрыкі імя Куйбышэва!.. Сарочкамі, якія пашыты фабрыкай імя Крупскай па нашаму заказу!.. Гэта ўсё не залежваецца на паліцах.

— Карацей кажучы, — гаворыць дырэктар магазіна, — пакупнік бывае задаволены, калі знаходзіць у нас тое, што яму патрэбна. Ці бывае адваротнае? Так, на жаль, яшчэ бывае. Але ўсё радзей і радзей. Вось, паглядзіце, што робіцца ў нас у аддзелах.

Музычныя інструменты. Тут працуе прадаўшчыцай комсамолка Дзіна Кулічэнка. Бачыце, як уважліва выслухоўвае яна пытанні пакупніцы, якая хоча набыць гітару. Можаце не сумнявацца ў тым, што пакупніца панясе з магазіна той інструмент, які яна хоча.

Або вось парфюмерны аддзел. Звярніце ўвагу на нерашучасць гэтых вось двух маладых жанчын, што выбіраюць духі! Але іх нерашучасць будзе ўмомант ліквідавана. Прадаўшчыца, таксама комсамолка, Зіна Корзун — вялікі знаўца парфюмерыі.

Паслухайце таксама, аб чым гутарыць з пакупніком комсамолка Галя Баяровіч. Грамадзянін жадае набыць чамадан, але чамусьці ўсумніўся ў якасці тавару. Баяровіч паказвае фірменны знак «Фабрыка імя Куйбышэва». — Фірма з гарантыяй! Бачыце, пакупнік бярэ чэк і ідзе да касы.

Гэтыя тры эпізоды адлюстраваны на нашых фото.

Пакупнікі ўсё ідуць і ідуць. Перад імі, на прылаўках, разгортваюцца ўсё новыя і новыя тавары. Шалясціць шоўк, звіняць бакалы, паблісківаюць лакам сумкі, пяюць з пласцінак тэнары, заманліва глядзяць у вочы пакупніку аб'ектывы фотаапаратаў.

Апошні пакупнік уваходзіць у магазін у дзевяць гадзін вечара. Ён хутка купляе, мусіць, раней аблюбаваную рэч і звяртаецца да адной з прадаўшчыц:

— Праз гадзіну еду дадому, на Каўказ. Вязу падарункі. Задаволены імі. Але быў-бы яшчэ больш задаволены, калі-б была магчымасць набыць рэч, якая мае нацыянальны, беларускі каларыт. Вельмі быў-бы задаволены!.. Спадзяюся, што ў наступны раз... Да пабачэння!

Ён шпарка выходзіць. Прадаўшчыца-ж, што слухала яго, адкрывае кнігу вучота і робіць у ёй кароткі запіс: «Зноў быў папрок, што не маем у продажу падарункаў нацыянальнага характару. Трэба з гэтым недахопам скончыць. Так прыемна бывае, калі пакупнік пайшоў задаволены!»

Тэкст і фота **А. Дзітлава.**

# КАБ ЛЮБІЛІ *кнігу*

Было гэта яшчэ зімою.

...Вячэрні змрок паволі спускаўся над гарадком. Загараліся электрычныя агні, і, як матылькі, кружыліся бліскучыя сняжынкі, якія падалі з дрэў.

— А дрэвы нібы зацвілі ад інею, — сказаў Пракоп Верам'ёў, стары калгаснік, сваёй спадарожніцы Валянціне Малашанка, загадчыцы раённай бібліятэкі. — Іней — добрая прыкмета на ўраджай грэчкі. Кажуць, калі зімой дрэвы стаяць кудлатыя ад інею, то летам грэчка будзе, як мядзведзь! З маіх прыкмет смяюцца, гавораць, што трэба лепш чытаць Лысенку.

— Вось як! — усміхнулася Валя. — Можа і празільныя вашы прыкметы, а Лысенку пачытаць не пашкодзіць.

Яны зайшлі ў бібліятэку.

У гэты-ж вечар, важна пакручваючы вусы, стары Пракоп Верам'ёў нёс пад пахай том Лысенкі.

Размова са старым калгаснікам чамусьці запомнілася Валянціне, як запомніўся і той дзень, калі яна прыехала ў Касцюковічы. Загадчык раённага аддзела культасветустаноў доўга разглядваў паперу з абласнога аддзела культуры, у якой значылася, што яна, нядаўняя студэнтка Мінскага бібліятэчнага тэхнікума, прызначаецца загадчыкам раённай бібліятэкі. Ці пацягне гэтае дзеўчанё такую работу? Лёгка сказаць — загадчык бібліятэкі!..

У гэты-ж дзень новаму загадчыку паказалі той маленькі і няўтульны закутак, у якім размяшчалася бібліятэка. Дзве пажоўклыя, абшарпаныя вітрыны з выцвіўшымі ад часу фотаздымкамі, некалькі лозунгаў, якія засталіся ад мінулагодніх выбараў. Усё гэта было так, для формы.

— Колькі ў нас чытачоў? — запытала тады Валянціна ў дзяўчыны-бібліятэкара, якая сумавала над нейкай тоўстай кнігай.

— Добра не памятаю, — пазяхнуўшы, адказала тая. — Штосьці каля двухсот.

Валянціна старанна ўзялася за абсталяванне бібліятэкі. Праз некалькі часу сюды было прыемна зайсці. Знайшліся і графіны і нават кветкі. Але не гэта было галоўным. Дзяўчына пазнаёмілася з настаўнікамі, урачамі, аграномамі. Правялі канферэнцыю, дыспут, потым яшчэ раз дыспут. Цяпер невялікі пакойчык бібліятэкі стаў ужо цесным. Трэба было думаць аб новым памяшканні.

Будавалі новую бібліятэку, і Валянціна бегала на пільню, на станцыю, да слёз сварылася з кансерватыўным загадчыкам комунгаса.

Калі ў чытальную залу, якая яшчэ захавала пах сасновых стружак і фарбы, прышлі першыя чытачы, у дзяўчыны радасна забілася сэрца. На паліцах кнігі нібы памаладзелі. У вочы наведвальніку кідаліся прыгожа напісаныя словы М. Горкага: «Усім лепшым я абавязаны кнігам. Любіце кнігі — крыніцу ведаў!»

Аднойчы бібліятэкар Клаўдзя Бязбабіч усклікнула:

— Валечка, сёння ў нас сем новых чытачоў прыбавілася!

Валянціна ўсміхнулася.

Пасля гэтага выпадку бывалі дні, калі прыбаўлялася і па восем, і па дванаццаць чытачоў у дзень. І ўсё было не так проста, кожны новы чытач прыходзіў у бібліятэку з пэўнай справай.

Калі аднаго разу Валянціна прынесла кнігу на дом Ефрасінні Пруднікавай, тая замахала рукамі.

— Ці ў мае гады кнігі чытаць? Вочы не дабачваюць, ды і сорамна нават неяк.

Тады Валянціна вечарам прышла да старой з кнігай. Чытала ёй «Маці» Горкага. І калі збіралася ісці дадому, Ефрасіння Іванаўна папрасіла:

— Ты, дачушка, пакінь гэтую кнігу мне. Я ўжо хоць і дрэнна бачу, але дачытаю сама. Цікавая-ж кніжка вельмі...

З таго часу Ефрасіння Пруднікава часта прыходзіць у бібліятэку. Аднойчы яна прывяла сюды і свайго старога суседа Якава Арашковіча.

— Навучы гэтага дзеда кнігі чытаць, — сказала яна.

Якаў Арашковіч таксама стаў адным з самых актыўных чытачоў. У яго абанементнай картцы запісаны «Сям'я Рубанюк» В. Папоўкіна, «Да новага берага» В. Лаціса, «Дні і ночы» К. Сіманава, «Ад усяго сэрца» Е. Мальцава, творы І. Мічурына. За 1953 год стары прачытаў 20 кніг.

Такіх, як Арашковіч і Пруднікава, многа.

Пра моладзь і гаварыць няма чаго — гэта сталыя і нязменныя сябры кнігі. Колькі разоў даводзілася адхіляць устаноўлены звычай, што чытачамі раённай бібліятэкі могуць быць людзі пераважна сталага ўзросту. Прыходзіць іншы раз у бібліятэку хлапчук. Сумка з кнігамі і пеналам цераз плячо, рукі ў чарніле. Па знешняму выгляду можна атэставаць беспамылкова — чатырохкласнік. Нясмела перасгупае з нагі на нагу. Жаданне яго зразумелае — хоча запісацца ў бібліятэку. Але як-жа яго запісаць, калі такім, як ён, месца ў дзіцячай бібліятэцы. Хлапчук упарты, ён не жадае здавацца без бою. Ён запісаны ў дзіцячай бібліятэцы, але кніг там не так ужо шмат і большую палову ён перачытаў. Ён-жа ўжо ў чацвёртым класе! І вось гэты самы хлапчук чытае кнігі без перадышкі, яго не папракнеш за тое, што позна здае кнігу. У пятым класе ён захапляецца пераважна Жуль Вернам, Майн-Рыдам, Янкам Маўрам, Арсеньевым, кнігамі пра падарожжы. У сёмым, восьмым і дзевятым просіць Пушкіна, Гогаля, Тургенева, Горкага, Чэхава, Шолахава, Маякоўскага, Коласа і Купалу.

Такія сённешнія дзесяцікласнікі Лёня Чайка, Цыля Забранская і дзесяткі іншых. Яны на парозе жыцця. Праз некалькі год, закончыўшы інстытуты, яны выйдуць на прасторы жыцця. І можна сказаць беспамылкова, што яны ўспомняць сваіх лепшых сяброў дзяцінства і юнацтва — кнігі, успомняць бібліятэку.

Многа работы бібліятэкару, і работа гэта складаная, яна патрабуе немалых ведаў. Аднойчы ў бібліятэку зайшоў камандыраваны таварыш у паліто з шырачэзнымі плячыма і папрасіў пачытаць «што-небудзь лёгенькае». Таварыш быў цікаўны, распытваў, ісці ў гасцініцу не спяшаўся. Калі даведаўся, што Валянціна Малашанка вучыцца ў бібліятэчным інстытуце, здзівіўся.

— І такі інстытут ёсць? А чаму-ж там вучаць: як кнігі на паліцах расстаўляць — па алфавіту ці па жанрах?

Што такому растлумачыш?.. Валянціна ўспомніла, колькі прышлося папрацаваць з тым-жа Пракопам Верам'ёвым, каб зрабіць яго пастаянным чытачом. Трэба ведаць схільнасць чытача, склад яго думак, яго прафесію, адукацыю, інтарэсы, каб даць яму патрэбную кнігу, абудзіць у ім цікавасць да яе. Адным словам, бібліятэкар павінен быць і вельмі добрым эрудытам і ў дадатак псіхолагам. Прыходзіцца мець справу з настаўнікамі, урачамі, аграномамі, ды і сённешні калгаснік прад'яўляе сур'ёзныя патрабаванні да кнігі. Сярэдняй адукацыі для такой справы малавата. Вось чаму позні́мі вечарамі, калі ў бібліятэку ўжо ніхто не прыходзіць, у вокнах яе не гасне святло. Як гаворыць сама Валянціна, тут канчаецца яе час як загадчыка бібліятэкі і пачынаецца час студэнткі-завочніцы Ленінградскага бібліятэчнага інстытута.

У бібліятэцы часта праводзяцца дыспуты, канферэнцыі чытачоў па прачытаных кнігах. Вось і нядаўна была канферэнцыя па раману В. Кочатава «Журбіны». Шмат людзей прышло ў гэты вечар у бібліятэку. Здарылася так, што рабочы з ільнозавода Мікалай Науменка прышоў разам з сынам-школьнікам. І абодва яны выступілі на дыспуце.

У калгасах праводзяцца канферэнцыі не толькі на літаратурныя, але і на сельскагаспадарчыя тэмы.

Ад чытачоў можна пачуць многа жывых слоў аб кнігах, аб тых думках, ідэях, якія нясуць яны ў масы.

Чытач, хто-б ён ні быў — калгаснік, настаўнік, агроном, — хоча знайсці ў кнізе праўдзівае, поўнае адлюстраванне жыцця, якое няўхільна ідзе наперад.

**В. НІКАЛАЕНКА, І. ЧЫГРЫНАЎ,**
**студэнты БДУ імя В. І. Леніна.**

**г. п. Касцюковічы**
**Магілёўскай вобласці.**



Чытач атрымоўвае новую кнігу.
Фото Яўг. Беленькага.

---

Міхась КАЛАЧЫНСКІ

## Мамаеў курган

Мамаеў курган уяўляў я
Інакшым у часе вайны,
А ён паказаўся на яве
Такім, як усе курганы.

Стаіць, сінявою ахутаны,
Адзін над акругай усёй
І хоча з гарою Магутавай
Памерацца сілай сваёй.

Па схілах, нібы пехацінцы,
Зялёныя травы паўзуць,
Трапеча на кожнай травінцы
Расы некранутая ртуць.

Ды вось скалыхнуў нечакана
Іх вецер гарачым крылом,
І травы дымяцца, як раны,
Палаючь барвяным агнём...

Я згадваю тую гадзіну,
Калі на Мамаеў курган
Разведчыкі нашы хадзілі
У слоту, у золкі туман.

Між іх летуценнікі, мусіць,
Такія, як зараз, былі,
І марай яны ў завірусе
Пра дзень перамогі жылі.

Свяціліся ў час небяспекі
Ім росамі нівы і лес,
Плаціны на скораных рэках,
Агні Сталінградскае ГЭС.

Была гэта мара такая,
Якую крылатай завуць,
З якой, калі бой вымушае,
На смерць і на подзвіг ідуць.

Прайшлі яны многа на свеце
І гор, і задымленых трас,
У вочы халодныя смерці
Глядзелі спакойна не раз.

І зараз, калі па абшарах
Блакіт рассцілае вясна,
Нам здзейсненай іхняя мара
З Мамаевых схілаў відна.



**У эксперыментальнай лабараторыі Савета прамысловай каапераацыі Беларускай ССР. Група маладых вышывальшчыц абмяркоўвае свае ўзоры мастацкай вышыўкі.** Злева направа: **Клаўдзя Саўлевіч, дырэктар лабараторыі К. І. Паўлава, Валянціна Лукашонак і Надзя Лапшына.**

Фото А. Дзітлава.



Фінальная сцэна з сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.
Фото А. Дзітлава.

А. ЕСАКОЎ

# Поспех маладога драматурга

Андрэй Макаёнак як драматург выступіў у друку ў пасляваенныя гады. Яшчэ ў аднаактавых п'есах ён зарэкамендаваў сябе, як добры знаўца калгаснага жыцця і нізавой партыйнай работы.

Драматычны тэатр імя Янкі Купалы заўважыў маладога здольнага драматурга і паставіў на сцэне яго першую вялікую п'есу «На досвітку», якая прысвечана барацьбе за мір у Францыі. А калі на чарговым пасяджэнні секцыі драматургаў Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР у тэатры імя Я. Купалы ўпершыню была прачытана новая п'еса Андрэя Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!», дык усе — і акторы, і рэжысёр, і пісьменнікі пагадзіліся на той думцы, што гэта арыгінальны сатырычны твор.

Чым-жа захапіла ўсіх п'еса «Выбачайце, калі ласка!»? Перш за ўсё тым, што гэты твор, напісаны да гістарычнай вераснёўскай пастановы ЦК КПСС, правільна вырашае праблему далейшага ўмацавання калгасаў. Ён моцна б'е па тых неруплівых кіруючых работніках, якія ўсё яшчэ няправільна разумеюць справу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў. Аўтар рашуча стаў на абарону перадавых калгаснікаў, якія змагаюцца супраць такіх «кіраўнікоў», якія ўсялякую дзяржаўную справу разглядаюць толькі з пункту гледжання асабістай выгады.

П'еса «Выбачайце, калі ласка!» з цікавасцю чытаецца, але з яшчэ большай цікавасцю яна глядзіцца на сцэне, дзе перад намі ўстае сапраўднае жыццё ва ўсёй паўнаце. У героях п'есы мы бачым жывых людзей калгаснай вёскі.

У аснову ідэі гэтай сатырычнай камедыі пакладзены звычайны жыццёвы факт: барацьба за своечасовую здачу збожжа дзяржаве. Аднак да гэтай гаспадарчай кампаніі кожны з дзеючых асоб адносіцца пасвойму. Калібераў, адказны раённы работнік, замест таго, каб правільна кіраваць калгаснымі справамі, прымушае калгаснікаў везці на нарыхтоўчы пункт усё збожжа без разбору, нават і насенне. Гэта—кар'ерыст, які дзеля сваёй выгады гатоў ісці на ўсё, каб толькі не заўважылі, што яго раён адстае. Яго цікавіць не грамадская справа, а асабістая слава.

У вобласці яго ўжо зразумелі, таму з больш адказнай пасады, якую ён займаў, перавялі ў раён, каб ён выправіў там свае памылкі.

Дробязнасць характару Каліберава выяўляецца ва ўзаемаадносінах яго з жонкай. Да яе ён іншы раз адносіцца зняважліва, іншы раз прыслухоўваецца да яе парад, але мала верыць ёй.

Зусім інакш ён трымае сябе перад райупаўмінзагам Моцкіным і старшынёй калгаса Гарошкам. Гэтымі ён камандуе, усяляк разыгрываючы перад імі важнага начальніка.

Райупаўмінзаг Моцкін, па натуры жулік і прайдзісвет, прапануе свайму начальніку Каліберaву даць у зводках завышаны працэнт збожжаздачы і такім чынам забяспечыць свайму раёну першае месца ў вобласці. Ён разумее Каліберава і таму становіцца перад ім падхалімам.

Старшыня калгаса «Партызан» Гарошка насцярожана ставіцца да махінацый Моцкіна і Каліберава, бо адчувае, што калгаснікі не даруюць яму гэтых махінацый.

Аўтар удала паказаў супярэчнасці ў характары гэтага старшыні. Ён не можа прытрымлівацца правільнай думкі, таму што баіцца пакрыўдзіць начальства. У Гарошкі ёсць сялянская хітраватасць, прастадушнасць працоўнага чалавека, разуменне справы, але разам з тым ён і напалоханы сваёй нядбайнасцю. Гаспадар ён не настойлівы, да голасу калгаснікаў не прыслухоўваецца. Беспрынцыповы, бесхарактарны, напалоханы начальствам, ён ідзе на антыдзяржаўны ўчынак, падтрымліваючы махінацыі Моцкіна.

І толькі калгасніца, былая партызанка Ганна Чыхнюк, якая пасапраўднаму клапоціцца аб сваім калгасе, адкрыта выступае супраць няправільных тэндэнцый гора-кіраўнікоў, якія ашукваюць і калгаснікаў і дзяржаву. Яе падтрымліваюць калгаснікі і брыгадзір Міхальчук — прынцыповы і працавіты чалавек.

Пісьменнік глыбока, дасканала ведае жыццё. Гэта дало магчымасць востра пабудаваць канфлікт і зрабіць п'есу цікавай, актуальнай і надзвычай патрэбнай.

Праўда, і ў гэтай добрай п'есе ёсць некаторыя месцы, над якімі варта яшчэ папрацаваць. Неабходна больш дакладна сказаць аб тым, што здача збожжа была і застанецца першым і пачэсным абавязкам калгасаў перад дзяржавай. Калі гэта будзе зроблена, дык знікнуць усякія сумненні адносна супрацьпастаўлення надзённых калгасных спраў збожжанарыхтоўкам. Першы акт неабходна зрабіць больш сціслым, лаканічным, тады дзеянне будзе разгортвацца энергічней. Больш актыўнай трэба зрабіць канцоўку п'есы. Пасля ўсяго гэтага твор будзе яшчэ мацнейшым з ідэйна-мастацкага боку.

П'еса «Выбачайце, калі ласка!» увайшла ў рэпертуар не толькі беларускіх тэатраў (яна пастаўлена ў тэатрах імя Я. Коласа і імя Я. Купалы), але з поспехам ідзе ў Маскве, Харкаве, Чыце, Карагандзе, Паўлаўску і іншых гарадах Савецкага Саюза. Калгаснікі, рабочыя, акторы і рэжысёры пішуць аўтару пісьмы. З некаторымі водгукамі хацелася-б пазнаёміць і нашага чытача.

Чыцінскі тэатр са спектаклем «Выбачайце, калі ласка!» выязджаў у сяло Аляксандраўку Чыцінскага раёна. Газета «Забайкальскі рабочы» надрукавала водгукі калгаснікаў аб гэтым спектаклі. Вось некалькі вытрымак з выказванняў чыцінскіх калгаснікаў.

Рахункавод калгаса імя Маленкова Н. Еўдакімава піша:

«Узяць, напрыклад, Каліберава... Ён толькі і ведае, што даваць дырэктывы ды «закручваць гайкі». Такія работнікі не звяліся яшчэ і ў нас у раёне. Прыязджаючы ў калгас, а то і проста па тэлефону з Чыты, яны як пачнуць даваць указанні і дырэктывы — Каліберава пераплюнуць! А вось знайсці прычыны дрэннай работы калгаса, арганізаваць справу, абаперціся на калгасны актыў — на гэта ў іх няма часу». Далей яна падмацоўвае сваё сцвярджанне канкрэтным прыкладам: «...Галоўны аграном МТС Ганна Якаўлеўна Жэрэпа па-ранейшаму прадаўжае «кіраваць» з канторы. Яшчэ і зараз сям-там сустрэнешся з работнікамі, падобнымі да Каліберава».

Далей Еўдакімава піша: «...Самае вялікае ўражанне зрабіла на мяне Ганна Чыхнюк — перадавая калгасніца. Яна за калгас жыццё гатова аддаць! Глядзела я... і думала: «Няўжо мала ў нас такіх калгасніц і калгаснікаў? Не, не мала іх! Значыць, пры дапамозе партыі, мы зможам ліквідаваць усе перашкоды на шляху да ўмацавання роднага калгаса, як ліквідавалі іх у п'есе Ганна Чыхнюк і яе таварышы».

Даярка з калгаса імя Маленкова М. Якаўлева ў гэтай-жа газеце пісала: «Галоўнае ў тым, што і аўтар п'есы і выканаўца ролі старшыні калгаса вельмі правільна адзначылі заганы, якія ў той ці іншай меры ёсць у некаторых нашых кіраўнікоў. Думаю, што, прагледзеўшы гэты спектакль, наш старшыня калгаса Васільеў моцна задумаецца. Многае, вельмі многае тут трапляе яму не ў брыво, а ў вока».

А вось як перадаў журналіст «Забайкальскага рабочага» самаадчуванне гэтага старшыні калгаса пасля спектакля «Выбачайце, калі ласка!».

«Хмурыцца, выходзячы з залы, старшыня калгаса Васільеў. Са сцэны было кінута нямала камень-чыкаў у яго агарод. Пасля спектакля адзін з раённых работнікаў пачаў даводзіць рэжысёру, што п'еса не актуальная, што заганны стыль работы, які высмеяны ў ёй, не мае месца ў іх раёне. Але гавaрыў ён аб гэтым ціха, баючыся, відавочна, сур'ёзных пярэчанняў з боку калгаснікаў».

Гэтыя водгукі гавораць аб тым, што аўтар правільна адлюстраваў сённяшняе калгаснае жыццё. А калі хваляць п'есу тыя, аб кім яна напісана, дык можна смела сказаць, што такі твор з'яўляецца ўдачай і аўтара і дасягненнем усёй беларускай драматургіі.



Сцэна з першай дзеі камедыі А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!» у пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы. Моцкін — народны артыст БССР, лаурэат Сталінскай прэміі В. Дзядзюшка, Каліберaў — народны артыст БССР, лаурэат Сталінскай прэміі Б. Платонаў.



Сцэна з другой дзеі. У цэнтры народны артыст СССР, лаурэат Сталінскай прэміі Г. Глебаў у ролі Гарошкі.

Фота І. Салавейчыка.



# Рабочая сталовая

Прагучэў заводскі гудок. Сціх гул матораў. Абедзенны перапынак. Апусцелі цэхі завода. Яшчэ зусім нядаўна рабочыя Барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната імені Комінтэрна вымушаны былі ў час перапынку бегчы абедаць дадому, або браць абед з сабой. Нядаўна пры заводзе была адкрыта новая рабочая сталовая. У ёй добра абсталяваны гардэроб, буфет, дапаможныя памяшканні. На 120 месц разлічана прасторная абедзенная зала. Разнастайнае меню ў рабочай сталовай. Тут гатуецца шмат смачных гарачых страў і халодных закусак. Рабочыя прадпрыемства штодзённа атрымліваюць больш тысячы снеданняў, абедаў, вячэр. Культурна і ветліва сустракаюць рабочых работнікі сталовай. Павары бываюць вельмі задаволены, калі, паабедаўшы, рабочы гаворыць афіцыянтцы: «Папрашу перадаць, каб і заўтра быў згатаваны вось такі смачны боршч». У сталовай няма мітусні. Усе працуюць зладжана, хутка.





А як-жа быць з тымі, хто па нейкіх прычынах у час абедзеннага перапынку не мог пакінуць цэх? Работнікі сталовай арганізавалі дастаўку гарачых абедаў у цэх. Тут ёсць спецыяльныя пакойчыкі, у якіх чыста і ўтульна. Рабочы, не пакідаючы цэха, можа спакойна паабедаць.

На здымках: Гатаванне абедаў на кухні. У абедзеннай зале сталовай.

Лепшая афіцыянтка Станіслава Янулевіч прынесла абед Эдуарду Анісовічу ў цэх.

Фота П. Наватарава.
(Фотахроніка БЕЛТА.)

Л. ХАМІЦКІ

# Змена дружных

З галоўным інжынерам Талачынскага ільнозавода нас пазнаёміў дырэктар Іван Рыгоравіч Казакоў.

— Галіна Рубан, — вітаючыся, сказала інжынер, смуглявая дзяўчына невысокага росту, і ў яе карых вачах засвяцілася гарэзлівая ўсмешка, як у дзесяцікласніцы.

Да знаёмства мы ўяўлялі інжынера Рубан не інакш, як Галінай Фёдараўнай — жанчынай ва ўзросце, вельмі сур'ёзнай нават у звычайнай гутарцы. Такое ўяўленне складвалася таму, што ў раённых арганізацыях пра яе гаварыць з вялікай павагай, называюць не інакш, як «інжынер Рубан», «таварыш Рубан» або «Галіна Фёдараўна». А тут перад намі была проста Галя, Галя Рубан.

— Вас, напэўна, цікавіць наша прадпрыемства? — запытала інжынер. — Калі ласка, пойдзем паглядзім.

Ад канторы да завода не больш трохсот метраў. Злева ўзвышаюцца сцірты трасты, якая цьмяным срэбрам пераліваецца на сонцы. Сціртаў на двары засталося не так многа, — пачынаючы з верасня, завод на поўную магутнасць перапрацоўвае трасту.

— Лён сёлета ўрадзіўся добры, і апрацоўваць яго прыемна, — расказвае Галя. — Большасць валакна здаем дваццатым нумарам.

Словы інжынера заглушаюцца шумам мяльна-трапальнага агрэгата. Паволі паварочваецца сетчаты транспарцёр універсальнай сушылкі. Ён дыхае нагрэтым паветрам у твары дзяўчат, якія спрытна развязваюць метровай даўжыні снапы і ставяць іх на сятчатку. На другім канцы сушылкі высушаная траста падаецца работніцамі на раскладачны стол агрэгата. Далей яна паступае ў мялку, потым пры дапамозе транспарцёрнага рэменя — у турбіну, і яшчэ праз якую хвіліну, калі ласка, — атрымлівай шаўкавістае валакно.

Каля машын завіхаюцца дзяўчаты. Гэта змена майстра Івана Іванавіча Калашнікава, з якой тут жартуюць, што з дваццаці двух чалавек усяе змены ён адзін носіць шапку, астатнія — хусткі.

Поспехі змены значныя, яна заўсёды перавыконвае дзённыя заданні. Работніцы стараюцца працаваць не горш за сваіх сяброў, якія вырасцілі на шырокіх калгасных палях такі цудоўны даўгунец.

Вось Соф'я Кавалеўская. Добра памятае яна свае першыя тыдні работы на заводзе, калі яе паставілі працаваць да мяльна-трапальнай машыны. Дзяўчына з усёй стараннасцю ўзялася за авалоданне новай прафесіяй. Яе цікавіў кожны працэс работы, кожная дэталь машыны. Вечарамі, пасля змены, яна падоўгу сядзела над кнігамі. Усё, што было незразумелым, запісвала ў сшытак, а потым звярталася за тлумачэннямі да інжынера ці майстра. Дзякуючы сваёй старраннасці Соф'я ў хуткім часе стала вопытным майстрам па апрацоўцы ільну.

Але дзяўчына клапацілася не толькі пра свае ўласныя поспехі ў працы.

«Адзін многае тут не зробіш», — добра ўсведамляла Соф'я. Не нарыхтуюць сушыльшчыцы ў дастатковай колькасці трасты — будзе прастойваць мяльна-трапальны агрэгат. Сапсуецца адзін з механізмаў — затрымаецца работа і другіх механізмаў. Тут, вядома, адзін рабочы адказвае за ўсіх і, у сваю чаргу, усе адказваюць за аднаго. Трэба, каб працавалі зладжана і ўмела ўсе.

«Як-жа гэтага дамагчыся?» — У кнігах разлікі простыя, зразумелыя. Напрыклад: «На мяльным агрэгаце норма апрацоўваць за змену 580 кілограмаў трасты; прапускная здольнасць механізма — 10 тон». Значыць, рабочыя могуць выконваць нават па дзве нормы і больш...

«Але чаму-ж мы не даем і нормы?» — такое пытанне не пераставала хваляваць дзяўчыну.

Так думала не толькі Соф'я Кавалеўская. Яе сяброўкі Таня Машкова, Надзя Пятроўская, Зіна Красінская і Таня Кажамяка таксама гаварылі

пра тое-ж самае, спрачаліся. Пытанне гэтае не адзін раз ставілася і на вытворчых нарадах.

Пастанова вераснёўскага Пленума ЦК КПСС актывізавала творчую думку ўсяго калектыва завода. Перад ім паўстала канкрэтная, пачэсная задача — даць найбольш моцнай сыравіны лёгкай прамысловасці.

Пастанову Пленума абмяркоўвалі ў заводскім клубе. Першым выступіў сакратар партыйнай арганізацыі Аляксандр Сідаравіч Плаксіцкі. Пасля яго з прамовамі выступалі многія рабочыя. Гаварылі канкрэтна, указвалі на ўсе дробязі, якія замінаюць рабочым выконваць і перавыконваць вытворчую праграму.

Працяглы заводскі гудок напомніў, што праз поўгадзіны заступае другая змена — Івана Іванавіча Калашнікава. Сяброўкі Соф'і Кавалеўскай заспяшаліся з клуба ў цэх. Ішлі моўчкі, кожная думала, як палепшыць сваю работу. Інжынер Галіна Рубан сказала ім:

— Дзяўчаткі, з сённешняга дня па-ранейшаму, самі ведаеце, працаваць нельга. Давайце пільна прыгледзімся, чаго нам нехапае, што ў нашай рабоце лішняе.

І калі работніцы прасачылі на працягу змены за сваёй работай, дык выявілася, што ў рабоце нехапае самай звычайнай рэчы — уважлівасці, стараннасці; замінае лішняя, непатрэбная мітусня ды размовы пра гулянкі. Тут-жа, у час работы, дзяўчаты хутка, без лішніх слоў, зразумелі гэта.

Кончылася змена...

— Сто дваццаць працэнтаў!.. — радасна абвясціў майстар Іван Іванавіч.

Нейкую хвіліну дзяўчаты маўчалі, а потым загаварылі ўсе адразу — радасна, усхвалявана.

— А я-ж казала, што можам выканаць і перавыканаць!..

— Толькі пастарацца!..

— Правільна!

— Дзяўчаткі, — перапыніла Галіна Рубан, — працаваць добра, выконваць дзённае заданне — гэта яшчэ не ўсё, гэта наш абавязак. Трэба, каб праца стала творчасцю! Нам патрэбны рацыяналізатары. Трэба знайсці новыя прыёмы працы. Замацуем першы поспех і адразу-ж рушым далей, да большых поспехаў. А для гэтага трэба вучыцца і мне і вам. Разам будзем павышаць свае веды.

З гэтага дня тэхнічная вучоба стала амаль штодзённай справай. Кожны адчуваў, што без глыбокіх ведаў нельга паспяхова ісці наперад.

Тэхнічную вучобу на заводзе ўзначаліла Галіна Рубан. Яна закончыла Кастрамскі тэкстыльны інстытут зусім нядаўна, летась. Учарашняя студэнтка, яна стала лепшай сяброўкай маладых работніц, перадавала ім свае веды і адначасова набывала вопыт з імі.

Неяк неўзабаве пасля таго, як пачаў працаваць гурток тэхмінімума, брыгадзір Соф'я Кавалеўская звярнулася да інжынера:

— Ведаеце, Галіна Фёдараўна, што я заўважыла! Стаю вось ля агрэгата і бачу, як частка валакна не зацiскаецца і ідзе ў адыход. Трэба тут нешта прыдумаць, каб зменшыць гэты адыход. Я зрабіла свае разлікі, але ў іх канцы з канцамі не сыходзяцца.

Інжынер абрадавалася.

— От-жа і добра! І я над зацiскной лентай каторы дзень думаю. Пойдзем, Соня, у кантору, падумаем аб разліках.

Праз некаторы час у кабінет інжынера, дзе за шырокім пісьмовым сталом, схіліўшыся над чарцяжамі, сядзелі дзяўчаты, нехта ціха пастукаў.

— Заходзьце!

Увайшоў сакратар партарганізацыі Аляксандр Сідаравіч. Яго ватоўка і шапка былі пакрыты кастрыцай...

— Не перашкодзіў?

— Калі ласка, Аляксандр Сідаравіч, сядайце.

Гутарылі доўга. Гаварылі аб тэхнічнай вучобе рабочых, аб працоўнай дысцыпліне, аб сацыялістычным спаборніцтве. Затым зноў схіліліся над чарцяжамі цёрна-трапальнага агрэгата.

— А што, калі агрэгат аднесці на некалькі сантыметраў управа?—раптам усхваляваным голасам сказала інжынер. — Тады выпрастаюцца папругі і валакно пойдзе пад зацiск ленты.

Меркаванні інжынера Рубан пацвердзіліся. Праверка дала вынікі яшчэ лепшыя, чым чакалі.

Праходзілі тыдні. Кожны дзень ільноапрацоўшчыкам прыносіў нешта новае. Расла прадукцыйнасць працы, паляпшалася якасць выпускаемай прадукцыі. Цяпер перавыкананне вытворчых заданняў на заводзе ўвайшло ў сістэму. Гэтаму садзейнічае шырока разгорнутае сацыялістычнае спаборніцтва, настойлівая праца ільноапрацоўшчыкаў над павышэннем сваёй кваліфікацыі. Уперадзе ідзе змена майстра Івана Іванавіча Калашнікава, якая штодзённа дае дзяржаве каля 2500 кілаграмаў добраякаснага валакна звыш плана.

Мы гутарым з рабочымі змены Калашнікава. Дзяўчаты з задавальненнем знаёмяць нас з работай машын, расказваюць пра вучобу ў тэхгуртку, пра апошнія ўдасканаленні іх агрэгата.

— На нашым агрэгаце, — гаворыць Ніна Каранеўская, — зменная норма выпрацоўкі складае 5800 кілаграмаў. А мы будзем апрацоўваць яшчэ больш. Па тэхнічных разліках такі агрэгат можа за змену прапусціць да 10 тон.

— І гэта не мяжа, — упэўнена сказала Марыя Куракова. — Што тыя тэхнічныя разлікі! Мы свае карэктывы і ў кнігі ўнясем! Праўда, дзяўчаты?

— Праўда, Марыя.

— Абавязкова ўнясем!

Талачынскі раён
Віцебскай вобласці.



Іван СІЎЦОЎ

# НА ЦЕЦЕРУКОЎ

Апавяданне

Мал. А. Волкава.

Аднойчы, калі я заседзеўся вельмі позна, а маці і сястрычка ўжо спалі, тата прышоў дадому ў надзвычай добрым настроі. Звычайна, вяртаючыся са сходу ці праўлення, ён доўга распранаўся ля парога, вешаў кажух, часамі нешта незадаволена гаварыў сам сабе. А то, ледзь толькі зачыніў дзверы, адразу-ж падаўся да стала.

— Вось бачыш! — сказаў ён, зняўшы з пляч новенькую стрэльбу.

— Дзе-ж ты купіў яе? — здзіўлена спытаў я, бо тата ў горад не ездзіў, а стрэльбаў у нашым сельмагу не было. Здзіўленне маё яшчэ больш павялічылася, калі я ўспомніў, што ў нас ужо ёсць адна стрэльба. І нават не благая. Ходзячы з ёю на паляванне, тата не раз прыносіў забітых зайцаў, курапатак, цецерукоў, а аднойчы разам з дзедам Антонам застрэліў амаль каля самай фермы аж двух ваўкоў.

— Ну што, добрая стрэльба? — спытаў тым часам тата. Але, убачыўшы, што я ўсё-ж чакаю адказу на сваё пытанне, дадаў: — Гэта мне, Віця, прэмію далі...

— Прэмію... за добрую работу? — спытаў я.

— За дрэнную-ж работу прэмій не даюць.

— Я ведаю, што не даюць... А куды-ж тую, старую, дзенеш? Прадасі?

Мяне раптам ахапіла вельмі радасная думка: пакольку ў нас дзве стрэльбы, то нарэшце і я магу хадзіць на паляванне.

Але тата і на гэтае пытанне адказаў не адразу, хоць, відаць, і адчуваў, чаго я хачу. Ён спакваля разглядаў стрэльбу — новенькую-новенькую, з чорным варанёным ствалом, з бліскучай ложай. А потым выцер з яе іней, праверыў курок, павесіў на сценку. Зняў старую, тую, па якую я толькі што пытаўся.

— Гэту?.. Пабачым, — прамовіў ён з хітрай усмешкай. — Я, можа, на паляванне буду хадзіць з дзвюма стрэльбамі... І страляць з абедзвюх буду. Убачу зайца, як пекану адразу з абедзвюх — нікуды касавокі не ўцячэ...

Тут ужо тата, бясспрэчна, жартаваў. Ніяк не мог я ўявіць, каб па дзічыне ці нават па якому-небудзь птаству можна было страляць адразу з дзвюх стрэльбаў.

— Ты чаму так позна сядзіш? — нечакана спытаў ён. — Заспіш і ў школу спознішся.

Я сказаў, што на дом такую складаную задачу задалі, што прасядзеў над ёй аж цэлых тры гадзіны.

— Усё-ж такі рашыў... Пакажы, — і тата, схіліўшыся над сталом, глядзеў у мой сшытак з такой стараннасцю, з якой толькі што агледаў сваю новенькую стрэльбу. І, відаць, быў задаволены рашэннем задачы, бо моўчкі адсунуў ад сябе сшытак. Але адразу-ж папрасіў дзённік.

Гэта мяне крыху здзівіла. Тата сёння, перад тым, як ісці на сход, праверыў дзённік і нават распісаўся там, дзе было напісана: «Подпіс бацькоў». І ўсё-ж мне прышлося дастаць партфель з кніжкамі...

— Ага, вось тройка па алгебры... А тут — па фізіцы, — гартаючы дзённік з самага пачатку, гаварыў тата.

Я хацеў сказаць, што гэтыя тройкі былі пастаўлены яшчэ ў першай чвэрці, што зараз у мяне і па алгебры, і па фізіцы добрыя адзнакі. Але дзе ты тут скажаш, калі адразу можна бачыць па выразу татавага твару, што ён не збіраецца слухаць падобных тлумачэнняў.

— А за што табе тройка па дыктоўцы? — нечакана спытаў ён. — Пакажы...

Прышлося даставаць з партфеля і сшытак.

— Што гэта такое? — паказваў ён пальцам на тое месца, дзе настаўнік за апошнюю дыктоўку паставіў мне тройку. — Што такое?

— Я і сам, тата, не ведаю, — прамовіў я. — Я напісаў не горш за другіх. У мяне толькі адна памылка. Забыў коску паставіць... За такую памылку чацвёрку ставяць.

І я хацеў расказаць, што Мішу амаль за такую-ж памылку паставілі добрую адзнаку, а мне толькі тройку. Але аб гэтым нават не давялося заікнуцца: тата ўжо вадзіў пальцам па таму месцу ў сшытку, дзе рукой настаўніка было размашыста напісана: «Трэба пісаць чысцей».

— А гэта?

— Я тут не вінаваты, — прамовіў я, падумаўшы, што мне з-за гэтай тройкі так і не давядзецца ісці на паляванне са стрэльбай. — Я, тата, стараюся пісаць акуратна. Сам бачыш... Але ў мяне прамакашкі не было. Узяў у Мішы. А ў яго такая дрэнная, што як прамакнуў, так і размазаў.

— А куды-ж твая дзелася?

— Не было... Відаць, Аня выцягнула са сшытка і парвала. — Я кіўнуў у бок сястры, якая сапраўды любіла пакорпацца ў маіх кніжках...

Гэтая гутарка адбылася амаль на зыходзе зімы — за тыдзень да вясновых канікул. Даўно мінулі студзеньскія і лютаўскія марозы, перадвясенніе завірухі. Што ні дзень, то

сонейка мацней прыгравала. Аселі гурбы снегу. Пачарнела дарога. Прыемным вясновым пахам патыхае ад бярозавых прысад, ад хваёвага лесу, што стаіць непадалёку ад вёскі... Нарэшце, пацяклі раўчукі, а потым і сапраўдныя ручаі з узгоркаў — адусюль. І ўзнялася рэчка, забурліла паводкамі.

Досвіткам, як толькі пачынае шарэць, над пачарнелым, вызваленым з-пад снегу полем узнімаецца маленькая, нябачная птушка-жаваранак і пачынае спяваць, спяваць. Ён, гэты спеў, нібыта сігнал для цецерукоў. Тыя пачынаюць трубіць, — глуха, аднекуль з лесу, з палян. І трубяць аж да самага ўсходу сонца. А часам нават і пасля ўсходу.

— Чуеце?.. Трубяць! — сказаў неяк аднойчы дзед Антон. — Заўтра можа сходзім?

— Можна, — згадзіўся тата і кіўнуў у мой бок. — Яго таксама можна ўзяць. Няхай паглядзіць.

Хоць мяне і папярэдзілі, каб у гэты дзень менш бегаў і спаць клаўся вельмі рана, — я не мог утрымацца. Перш-на-перш я заскочыў да Мішы, каб пахваліцца, што заўтра раніцою пайду на паляванне. Потым ужо разам з Мішам забеглі да Пеці Сарокіна, а ад яго — на рэчку, каб на крыгах пакатацца.

— Хто-ж за цябе будзе патроны набіваць? — папракнуў мяне ўвечары тата. — Відаць, усіх сваіх таварышоў аббегаў і ўсё хваліўся, што пойдзеш на цецерукоў.

— Не, не хваліўся, — спрабаваў аднеквацца я. — Я ім толькі так сказаў ды на крыгах пакатаўся...

Доўга не спалася мне ў гэтую ноч. Спачатку прыпомнілася, як бацька з дзедам Антонам яшчэ ўвосень хадзілі паляваць на цецерукоў. Яны падняліся раным-рана, на золку. І я ўжо не мог тады заснуць. Чакаў, калі пачне віднець, калі, нарэшце, сонца ўзнімецца над лесам. Увесь час пазіраў у акно — на дарогу, адкуль павінны былі паказацца паляўнічыя. Нарэшце, не стрымаўся — апрануўся, выскачыў з хаты, захапіў з сабою Жука, выбег на вуліцу. І там доўга чакаў. Затое сустрэў іх за рэчкай, амаль каля самага лесу. Дзед Антон і бацька былі вельмі задаволены: яны неслі чатырох забітых цецерукоў. Не, я, прызнацца, не разлічваў, што вярнуся з такой здабычай з палявання. Дзед можа застрэліць аж трох цецерукоў, бацька — ну, няхай, не менш двух, а я — хоць аднаго ды прынясу дадому. Не магу-ж я прыйсці з пустымі рукамі. А потым снілася мне, што я ў лесе на той самай палянцы пра якую гаварылі дзед і бацька. Ляжу пад елачкай, а непадалёку — цецерукі. Іх многа. Страляю ў аднаго, другога, трэцяга... І калі іх сабраў, то яны адразу неяк пачалі ажываць і моцна-моцна штурхаць мяне ў бакі.

— Уставай, уставай! — чую я праз сон. — Цецерукоў праспім.

Падхопліваюся. Першае, што бачу, — гэта святло ад лямпы. Каля ложка стаіць тата і штурхае мяне ў бок. Тут-жа быў і дзед Антон.

— Ну, колькі ты думаеш сёння забіць цецерукоў? — пытаецца ён у мяне.

— А-а, паляўнічы, — сказала тым часам маці. У голасе яе адчувалася знявага. — Ім толькі тых і страляць звяроў, якія навязаны. А цецерука-ж не прывяжаш.

— А што ты думаеш...—дзед павярнуўся да яе тварам і з усмешкай працягваў: — Мне раз давялося страляць і ў прывязанага. Сяджу гэтак я аднойчы ў лесе на пяньку. Куру сабе, а стрэльба ляжыць. Бачу, па сцежцы, прама на мяне, заяц. Я за стрэльбу, склаўся і бац — выстраліў. Апусціў заяц галаву ўніз, а заднімі нагамі ўверх падскоквае... Іду і думаю: напэўна, яму ў галаву папаў. Але калі ў галаву, то чаму-ж, думаю, ён заднімі нагамі дрыгае? Падыходжу бліжэй і бачу — прывязаны мой заяц.

— Так ужо і прывязаны? — з недавер'ем гаворыць бацька, і заківаў галавой, быццам хацеў сказаць: «Не расказвай ты нам байкі. Не раз мы ад цябе іх чулі».

— Ды проста, — працягваў далей дзед. — Ляжыць мой заяц жывы-здаровы, а галава яго ў пятлі. Іх, відаць, дзеці па сцежцы панаставілі. Заяц, калі снег глыбокі, ніколі не бяжыць па цаліне. Ён заўсёды трапляе на сцежку. І вось трапіў ён, небарака, у пятлю. А я страляў па ім і не папаў. Я бяру яго, а ён глядзіць на мяне такімі жалобнымі вачыма, што проста просіцца, каб адпусціў. І я яго адпусціў — бяжы, калі не мой. Жыві! Але больш не сустракайся на дарозе — не прамахнуся.

Бацька засмяяўся, даслухаўшы пра такое дзіўнае паляванне дзеда. А маці сказала:

— Вось на такіх ім толькі і паляваць.

А я маўчаў, хоць і хацеў сказаць, — калі пападзецца цецярук, то рук маіх не міне. Але маці словам не дакажаш, абавязкова трэба прыйсці з палявання са здабычай.

Ледзь толькі мы вышлі з хаты — у ноч, якая у перадранішнім вясновым небе высыпала мноства зорак, — як падбег Жук. Віляючы хвастом, ён кінуўся мне на грудзі, лашчыўся, быццам прасіў: «Вазьміце і мяне з сабой». Але нават хоць-бы ён і на самай звычайнай чалавечай мове сказаў гэтыя словы, яго ўсёроўна-б з сабой не ўзялі, бо ён быў такі няўдалы сабака, што яго бацька ніколі з сабой на паляванне не браў. І толькі я часам улетку хадзіў з ім на балота, каб ён выганяў адтуль і пудзіў дзікіх качак. А Жук тым часам так лашчыўся да мяне, што я гатоў быў узяць і правесці яго да канца вёскі — няхай крыху прабяжыць за намі. Але мне раптам прыпомнілася, якую шкоду ён зрабіў летам. Налавіў я аднойчы рыбы — дзесяткі са два плотак і нават аднаго шчупака — і паклаў у сенцах, а сам пабег да маці на агарод. Калі-ж прышоў назад, вельмі здзівіўся. «Дзе-ж рыба?» — спытала маці. «Тут ляжала», — сказаў я, паказваючы на табурэтку, куды клаў рыбу і дзе зараз ляжаў толькі шматок лускі. Я і не даведаўся-б, магчыма, хто паеў рыбу, калі-б не ўбачыў каля





варот Жука, які заканчваў уплётваць шчупака. Дасталося тады Жуку! І зараз, успомніўшы аб гэтым, я разлаваўся і прагнаў яго ад сябе.

І вось мы на паляне сярод лесу.

Паляна звычайная і вельмі мне знаёмая. Я адразу пазнаў яе па цьмянаму сілуэту вялізнага дуба, што стаяў амаль на сярэдзіне, пад якім мы з Мішам разы са тры адпачывалі ўлетку, калі хадзілі па ягады. А аднойчы нават заклаліся, хто забярэцца на такое таўшчэзнае дрэва. Першым спрабаваў узлезці на дуб Міша. Толькі нічога ў яго не атрымалася: ніяк ён не мог абхапіць дрэва рукамі. А я схітраваў. Выразаў з арэшыны крук, схіліў ім галіну дрэва і так забраўся аж на самую яго вяршыню. Праўда, гэта не лічылася, што ён прайграў, а я выйграў. Але я сам бачыў і па выразу яго твару і па яго вачах, што таварыш мне зайздросціў.

Я ляжу ў будцы, што на ўскрайку паляны ля маладога купчастага ельніку. Збоку ў мяне стрэльба, а да яе — дзесяць патронаў, якія даў мне тата, пажадаўшы, каб я гэтулькі-ж і цецерукоў забіў.

Вы не падумайце толькі, што гэтая будка надта вялікая, — ну, хоць-бы такая, якую я ўлетку аднойчы зрабіў разам з Мішам. То быў сапраўдны будан, дзе можна было пяць-шэсць чалавек размясціць. А ў гэтай — нават галаву высока не ўзнімеш, калі сядзеш.

Ляжаць прышлося доўга. Гадзінніка ў мяне не было, але я і так добра адчуваў, што за такі прамежак часу ў нас у школе магло ўжо быць два ўрокі і два перапынкі.

Днела паступова.

Праз шчыліны будкі я бачыў, як усё выразней выступаў з цемры дуб, як з перадранішняй шэрані вырысоўвалася паляна з мінулагодняй пажоўклай травой і лісцем. Нарэшце, заўважыў будку, дзе ляжаў дзед Антон.

Заспяваў жаўрук.

І цецерукі раптам затрубілі над лесам.

— Чу-шш-ы-ы, чу-шыы, — раптам данеслася збоку, адтуль, дзе была будка дзеда Антона.

Я насцярожыўся. Зняў з рук пальчаткі. Узяўся за стрэльбу.

І тут убачыў цецерука — першага жывога цецерука на сваім жыцці. Лепш кажучы, пачуў спачатку, як штосьці залопала недзе збоку, а потым і сапраўды ўбачыў, як вялізная птушка з чорнымі крыллямі падляцела да дуба, села на паляну.

Зноў зачушыкаў з будкі дзед. А цецярук насцярожыўся, распусціў крыллі і адказаў:

— Чу-шыы, чу-шш-ы... — і потым, з натапыраным крыллем, павольна пераступаючы пайшоў па паляне ў бок будкі. Ён часам спыняўся, слухаў, але калі зноў чуў чушыканне, чушыкаў у адказ і ішоў проста на дзеда.

«Дзеду пашанцавала», — падумаў я і тут-жа вырашыў, што калі на гэты раз сядзе на паляне цецярук, то ўжо не буду чакаць, калі ён сам падыйдзе да мяне крокаў на сорак, каб можна было страляць. Не, я сам буду чушыкаць, як гэта рабіў дзед.

А цецерукі трубілі.

Неўзабаве некалькі з іх зляцела з дрэў, забегала, закружылася па паляне, — пачалі біцца. Аж пер'е ляцела. Яны нават не звярталі ўвагі на тое, што і дзед, і я чушыкалі амаль беспярапынна. Не чулі яны нас. Ім было, відаць, не да гэтага.

І раптам я ўбачыў, як будка дзеда прыўзнялася, пасунулася наперад, прысела. «Хітры дзед, — неяк міжвольна падумаў я, — зрабіў-жа сабе такую будку, што прыўзняўся і нясі на спіне куды хочаш!» Вытрымка, з якой я ўвесь час сядзеў у будцы, на гэты раз пакінула мяне. Паспрабаваў прыўзняцца, і дзіва — будка адарвалася ад зямлі. І, як гэта рабіў дзед, я прапоўз метры са два і адразу-ж спыніўся, бо ў гэты момант убачыў, як двое цецерукоў, адлучыўшыся ад статку, беглі проста на мяне. Адзін з іх, азіраючыся назад, злосна чушыкаў, часам спыняўся. А другі, што бег ззаду, налятаў на яго і біў... У гэты момант я нават забыў, што я паляўнічы і ў мяне ёсць стрэльба. Даволі было ўжо таго, што непадалёку ішла цікавая бойка двух вялікіх лясных птушак.

А тым часам пярэдні цецярук, відаць, упэўніўшыся, што ў бойцы яму не перамагчы, кінуўся ў бок маёй будкі. Я не варушыўся, затаіў дыханне. Нельга падрабязна расказаць вам, што было далей. Я толькі добра памятаю, як будка адразу-ж перакулілася і я кінуўся да птушкі, якая была вось-вось у маіх руках...

— Ты, брат, нам усё паляванне сапсаваў,— падышоўшы потым да мяне, сказаў дзед.

У голасе яго я не адчуў злосці. І нават калі-б ён і сапраўды разлаваўся за мой учынак, то ўсёроўна-б не надоўга, бо злавіць жывога цецерука не так лёгка.

— Гэта не паляванне, а дзіва, — гаварыў тата і ківаў галавой. — Добрая прыкмета, калі да цябе, Віця, цецерукі ў будку самі бягуць. Паляўнічы з цябе гарачы будзе...

А я стаяў і мне не верылася, што дзіўная лясная птушка была амаль у маіх руках.

Уладзімір КУЛАКОЎ

Мал. Н. Гурло.




Байка

Варона трапіла ў чыны:
Дырэктара пасаду атрымала!
Такіх выпадкаў хоць і мала,
Але-ж трапляюцца яны.
Сябе адчуўшы ўжо арлом,
Надзьмуўшы чуб накшталт кароны,
Сядзіць варонаю варона
У мяккім крэсле за сталом.
А ў гэты час
Ліса якраз
З кустоў забегла ва ўстанову
І пачала сваю прамову:
— Што за дырэктар!
Проста цуд!
Мяне ў бухгалтары такому.
Мы нарабілі-б дзіваў тут,
На цэлы свет былі-б вядомы!
Лічыць?..
Ды ў гэтым я ўсім нос утру!.. —
Ад шчасця каркнула варона:
— Бяр-р-ру!..
Ліса за справу.
Спраў нямала —
Яна лічыла ды пісала
І...
Касу ўшчэнт абрабавала.
Без развітання
«Будзь здароў!» —
Прапала дзесьці між кустоў.
Варону-ж тут, браткі, за лапы —
Далоў з дырэктарскай канапы!
Вось вам і месца для маралі:
Як след варону пакаралі!..
Яе і не шкада.
Не ў тым бяда.
Бяда,
Што не кранулі тых персон,
Якія ўзводзяць у чыны варон!




# НОВЫЯ КНІГІ

## Творчасць маладых

Трэці выпуск зборніка «На сонечных сцежках»*, як і папярэднія, уключае творы розных жанраў. Ёсць тут апавяданні, вершы, байкі, п'есы, нарысы, якія належаць пяру таленавітай літаратурнай моладзі. Розны літаратурна-мастацкі ўзровень гэтых твораў, розны жыццёвы вопыт у маладых аўтараў, але




ёсць адно агульнае, што характэрна для лепшых твораў зборніка — гэта імкненне паказаць жыццё ў няспынным руху наперад, у супярэчнасцях.

Паэзія ў зборніку прадстаўлена, у асноўным, лірычнымі вершамі. У лірычных вершах і замалёўках чытач бачыць жыццё нашай рэспублікі і ўсёй савецкай краіны, асветленае вялікімі ідэямі барацьбы за комунізм, ідэяй дружбы народаў насычанае паэзіяй працы і міру.

Змястоўнымі вершамі, у якіх выразна адчуваецца індывідуальная манера пісьма, прадстаўлены ў зборніку малады гродзенскі паэт П. Макаль. У вершы «Гамоняць калоссі» паэт выказвае свае адносіны да вялікай пераўтваральнай сілы калгаснага ладу, які скасаваў праклятую спадчыну мінулага — аднаасобніцкія межы.

Пагляну —
І зноўку той трактар
ускрэсне,
Што ўвосень тут межы
Навек перакрэсліў.
І зноў прыгадаецца
Сеялка тая,
Што гэтак цудоўна
Палі засявае...

Працоўныя будні плытагонаў, ткачых, будаўнікоў, хлебаробаў услаўляе паэт М. Смагаровіч. Светлай радасцю за свой народ, за сваё шчасце Радзімы, нястрымным імкненнем да міру прасякнуты лепшыя яго вершы-мініятуры «Галубкі» і «Золата».

Калі можна адзначыць пэўную таленавітасць у вершах П. Макаля, М. Смагаровіча, некаторыя творчыя ўзлёты у М. Спаткая, Н. Гілевіча, М. Лазарука, М. Арочкі, дык большасць вершаў зборніка носіць характар вельмі аголенай рыторыкі. Жыццёвы матэрыял, які запаланіў паэтаў, не атрымаў вобразнага, паэтычнага асэнсавання. Недастаткова валодаючы высокім майстэрствам, паэты падмяняюць сапраўды паэтычнае вырашэнне тэмы апісальнасцю і рыторыкай або становяцца на шлях літаратурнага перайманыя. Гэты папрок можна адрасаваць усім, без выключэння, паэтам, прадстаўленым у зборніку. Але асабліва багата дэкларатыўных, рытарычных вершаў у Г. Кляўко, Хв. Жычкі, Д. Сасева, Ул. Ляпёшкіна, Ал. Ставера, Н. Астаневіча.

Тэма барацьбы новага са старым, тэма выкарчоўвання дробнаўласніцкіх звычак у працы і побыце савецкага чалавека, тэма выкрыцця новаяўленых заваёўнікаў свету складае змест баек В. Маеўскага і М. Скрыпкі. Арыгінальна і свежа гучыць байка В. Маеўскага «Камбайн і Лабагрэйка». У байках М. Скрыпкі шмат запазычаных тэм, вобразаў, нават паасобных радкоў; гэта зніжае мастацкую вартасць яго твораў.

У зборнік уключаны два драматычныя творы Л. Гатальскай. У п'есе «Шчасце перАступае парог» пісьменніца здолела пабудаваць востры драматычны сюжэт і стварыць яркія, індывідуальныя вобразы. Сакавітая мова, перасыпаная падслуханымі ў народзе трапнымі выслоўямі, умела скарыстаны пісьменніцай для выражэння асноўнай ідэі п'есы — барацьбы савецкага народа з класавым ворагам: кулацтвам і служкамі Ватыкана, якія спрабавалі перашкодзіць масавай калектывізацыі ў заходніх абласцях Беларусі. У цэнтры п'есы — любоўна выпісаныя вобразы слаўнай савецкай моладзі, комсамольцаў. Шкада, што ўкладальнікі зборніка ўключылі побач з удалай п'есай «Шчасце пераступае парог» пустую аднаактоўку «Анюта», дзе, па сутнасці, няма ні вобразаў, ні жыццёвага канфлікта.

Проза ў зборніку прадстаўлена апавяданнямі і нарысамі. Тэматычна яны закранаюць працоўныя будні калгаснай вёскі, чыгуначнікаў і сельскай інтэлігенцыі. Аб рабочым класе змешчаны толькі адзіны ў кнізе нарыс Л. Кавалерчыка «Алмазчыца з «Нёмана». Гераіня нарыса ахарактарызавана вельмі паверхоўна і невыразна.

Аб жыцці маладых чыгуначнікаў апавядае Я. Васілёнак. Калі ў апавяданні «Трое» пісьменніку ўдалося сціплымі мастацкімі сродкамі стварыць прывабныя вобразы трох маладых чыгуначнікаў, паказаць душэўныя перажыванні закаханых, вялікую выхаваўчую сілу калектыва, дык другое яго апавяданне «Крыўда Сцяпана Дароні», пабудаванае на цэлым ланцугу выпадковасцей, выдуманых аўтарам для ўскладнення і штучнага перанапружання сюжэта, мала пераканаўчае і не можа па-сапраўднаму ўсхваляваць чытача.

Цікава, непасрэдна і шчыра напісана П. Рунцом апавяданне «Заламаны ражок» з жыцця савецкіх школьнікаў. У ім паказаны здаровы школьны калектыў на чале з настаўніцай, ахоплены пачуццём шчырага сяброўства і ўзаемадапамогі.

Паэтычна напісанае А. Каўко апавяданне «Васіль прыехаў» не можа прэтэндаваць на арыгінальнасць. Перапоўненыя шчасцем юнакі і дзяўчаты з вёскі Падліпаўка, якія ўвесь час спяваюць, занадта нагадваюць герояў вядомага апавядання С. Антонава «Паддубенскія частушкі».

На адну тэму напісаны апавяданні М. Ваданосава і В. Дайліды. Імкненне прыхарошыць жыццё, захапленне тэхнікай, за якой не відаць шчырых пачуццяў закаханых маладых людзей, характэрна для гэтых апавяданняў. Трэба, аднак, адзначыць, што В. Дайліда тонка адчувае родную прыроду і выявіў сябе здольным у галіне стварэння маляўнічага пейзажа.

Шматслоўным, вялым, неарганізаваным кампазіцыйна атрымалася апавяданне П. Васілеўскага «У мірныя дні». Прычынай гэтага з'яўляецца імкненне ахапіць у невялікім творы некалькі тэм.

Пры больш патрабавальным адборы трэці выпуск зборніка «На сонечных сцежках» мог быць на вышэйшым мастацкім узроўні, у яго не трапілі-б творы з запазычанымі сюжэтамі, абыякавым апісальніцтвам, з агульнымі і трафарэтнымі радкамі, з аднастайнымі рытмамі і збітымі рыфмамі. А гэта магчыма пры больш уважлівым адборы і рэдагаванні ўключаных у зборнік твораў маладых пісьменнікаў.

Ул. ЮРЭВІЧ.

---

* **«На сонечных сцежках».** Творчасць маладых пісьменнікаў БССР. № 3. ДВБ. 1953. Стар. 240. Склалі: А. Есакоў, А. Рылько і Т. Хадкевіч. Рэдактар М. Клімковіч.

## ВЫДАТНЫ МАСТАК-БАТАЛІСТ

13 красавіка споўнілася пяцьдзесят год з дня трагічнай смерці вядомага рускага мастака-баталіста Васілія Васільевіча Верашчагіна. Мастацкая спадчына В. Верашчагіна — адна з самых яркіх старонак рускага жывапісу. Усё сваё жыццё мастак-патрыёт прысвяціў высокароднай справе служэння народу. Яго творчасць — гэта гнеўны пратэст супраць захопніцкіх несправядлівых войнаў, якія безупынна вялі імперыялісты.

В. Верашчагін з маленства марыў стаць мастаком. У 1860 годзе ён закончыў марскі корпус, але



кар'ера флоцкага афіцэра не вабіла юнака. Хутка ён выйшаў у адстаўку і цалкам прысвяціў сябе жывапісу.

В. Верашчагін — мастак-воін, баталіст, ён сам прымаў удзел у некалькіх бітвах, вельмі многа падарожнічаў. Крым, Каўказ, Сярэдняя Азія, Індыя, Балгарыя, Сірыя, Палестына, Амерыка, Японія — такі далёка не поўны пералік краін і абласцей, якія наведаў В. Верашчагін.

Упершыню ў гісторыі рускага жывапісу В. Верашчагін праўдзіва адлюстраваў вайну, тыя страшэнныя пакуты, якія яна нясе з сабой. Мастак-рэаліст з непераўзыйдзенай сілай намаляваў гераізм, мужнасць, адвагу і стойкасць рускага салдата. Яго карціны прасякнуты гарачай любоўю да свайго народа, нянавісцю да яго прыгнятальнікаў. В. Верашчагін на працягу ўсяго свайго жыцця бязлітасна выкрываў злачынствы царскага самаўладства, жудасці, якія тварылі прыгоннікі.

Двойчы В. Верашчагін наведаў Сярэднюю Азію. Вынікам гэтых наведванняў з'явілася туркестанская серыя карцін. Лепшымі палотнамі з гэтай серыі з'яўляюцца палотны «Забыты» і «Апафеоз вайны». Карціна «Забыты» па свайму ідэйнаму пафасу з'яўляецца надзвычай яскравым выкрывальным дакументам. На полі бою застаўся забіты салдат. Дзесьці ўдалечыні, за ракой, знікае атрад. Да мёртвага салдата зляцеліся вароны, але гэта не іх спажыва: да трупа ляцяць больш моцныя драпежнікі — арлы. Трагедыя вайны паўстае з палатна ва ўсёй сваёй непрыгляднасці. Царскаму ўраду не да спадобы прыйшоўся выкрывальны пафас карціны. Верашчагіна абвінавацілі ў антыпатрыятызме, у паклёпе «на храбрае туркестанскае войска».

Але мастак заставаўся верным свайму народу, палымяна выкрываў ён захопніцкія войны і іх падпальшчыкаў. Найбольш поўнае выражэнне гэтая ідэя атрымала ў карціне «Апафеоз вайны». Падзеі, увасобленыя ў гэтым палатне, адбываюцца ў XIV-XV стагоддзях, але, тым не менш, карціна сваім пафасам пераклікалася з сучаснай мастаку рэчаіснасцю. Мастак прысвяціў палатно «усім вялікім заваёўнікам былога, сучаснага і будучага», шлях якіх да сусветнага панавання ляжыць праз мільёны загубленых чалавечых жыццяў.

У 1877 годзе пачалася руска-турэцкая вайна, удзельнікам якой быў і В. Верашчагін. Разам з арміяй прайшоў мастак увесь баявы шлях. Толькі цяжкае раненне вывела яго на некаторы час са строю. У надзвычай цяжкіх умовах — пад знішчальным артылерыйскім агнём, у мароз і сцюжу — стварыў Верашчагін свае карціны. Гэта быў бяспрыкладны подзвіг мастака-воіна.

Балканская серыя карцін — новы бліскучы ўзлёт творчага таленту Верашчагіна. Непераўзыйдзеныя палотны мастака з велізарнай сілай выкрываюць царскае самаўладства і разам з гэтым апяваюць гераізм рускіх салдат. Найбольш вядомыя карціны гэтай серыі — «Аляксандр II пад Плеўнай», «Пасля атакі», «Паніхіда па забітым», «На Шыпцы ўсё спакойна». Яны заваявалі ўсеагульнае прызнанне.

Ніколі яшчэ ў гісторыі рускага жывапісу не раскрывалася з такой праўдзівасцю, як у палотнах В. Верашчагіна, трагедыя вайны. «Перада мной, як мастаком, — пісаў ён, — вайна, і я яе б'ю колькі ў мяне ёсць сілы, ... б'ю з размаху, бязлітасна». Аб гэтым пісаў і вядомы крытык Стасаў, які ставіў В. Верашчагіна, як рэаліста ў адлюстраванні вайны, побач з Л. Н. Талстым.

Творчасць В. Верашчагіна — адна з цудоўных старонак у гісторыі рускага і сусветнага жывапісу. Верашчагін з'явіўся непераўзыйдзеным мастаком у галіне батальнага жывапісу. Карціны яго карыстаюцца велізарнай папулярнасцю савецкіх людзей, яны і сёння з'яўляюцца магутнай выкрывальнай зброяй супраць падпальшчыкаў новай вайны.

**Б. ЕФІМАЎ.**

## СТАРЭЙШАЯ ШКОЛА

Былы партызан, цяперашні будаўнік на аднаўленні горада Магілёва, Аляксей Іванавіч Цмыг апавядае аб тым высокародным уплыве, які робіць музычнае выхаванне дзяцей на іх дысцыпліну, на выпрацоўку пачуцця калектывізма, на павышэнне агульнай культуры. Ён ганарыцца тым, што яго старэйшы сын Валянцін так падрыхтаваўся па музыцы ў дзіцячай школе, што зараз, з'яўляючыся курсантам Ваенна-Марскога вучылішча, кіруе там мастацкай самадзейнасцю. Музычная школа дапамагла дачцы Зінаідзе выбраць сабе прафесію выкладчыка музыкі. Міхаіл і Леанід — меншыя сыны Аляксея Іванавіча — таксама наведваюць Магілёўскую музычную школу. Для ўсіх сваіх дзяцей А. І. Цмыг купіў музычныя інструменты: віяланчэль, піяніна, баян, на якіх яны іграюць.

Такіх прыкладаў павагі магіляўчан да музычнай асветы, да сваёй музычнай школы можна прывесці вельмі многа. А паважаць Магілёўскую музычную школу ёсць за што.

35 год, як існуе гэтая старэйшая ў рэспубліцы пачатковая музычная школа імя Рымскага-Корсакава. Створаная па хадайніцтву працоўных Магілёўскім губернскім аддзелам народнай асветы ў красавіку 1919 года, Магілёўская музычная школа за час свайго існавання навучыла звыш 1000 чалавек асновам музычных ведаў. Не ўсе з былых вучняў сталі шырока вядомымі музыкантамі-прафесіяналамі. Так, напрыклад, Пятро Яцына — двойчы лаўрэат Сталінскай прэміі — больш вядомы як скульптар, чым музыкант, але любоў да Магілёўскай музычнай школы, дзе ён раней выхоўваўся, выдатны дзеяч савецкага мастацтва захаваў і да цяперашняга часу. Ён лічыць, што гэтая школа парадніла яго з усімі галінамі мастацтва.

Свой шлях у мастацтве пачалі тут многія вядомыя савецкія музыканты, прадстаўнікі не толькі беларускай музычнай культуры, але і іншых брацкіх рэспублік. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова назваць імёны салісткі Вялікага тэатра Саюза ССР спявачкі Тацяны Талахадзе, доктара мастацтвазнаўчых навук віяланчэліста Л. Гінзбурга, саліста аркестра Вялікага тэатра В. Дусовіча, салістку Дзяржаўнага бурат-мангольскага тэатра




О. Фурс, дырыжораў Б. Афанасьева і С. Ратнера, многіх артыстаў Беларускага тэатра оперы і балета, філармоніі, Дзяржаўнага хора пад кіраўніцтвам Р. Шырмы, Народнага беларускага хора пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча і іншых калектываў рэспублікі, тэатраў і канцэртных устаноў Савецкага Саюза. Звыш трыццаці студэнтаў розных факультэтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі таксама з'яўляюцца былымі выхаванцамі Магілёўскай музычнай школы. А колькі іх у іншых музычных ВНУ краіны!

У Магілёўскай музычнай школе з вялікай павагай гавораць аб той увазе, якую аказвае гэтай навучальнай установе прафесар Ленінградскай кансерваторыі В. Н. Рымскі-Корсакаў — сын Н. А. Рымскага-Корсакава. Тут і парады, і пісьмы вядомага прафесара, і вялікая яго зацікаўленасць усім жыццём школы.

За 35 год існавання Магілёўская музычная школа імя Н. А. Рымскага-Корсакава ў сваіх сценах бачыла шматлікіх вучняў па класу фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі, народных інструментаў, баяна. Змянілася многа і педагогаў за гэтыя гады. Некаторыя з іх, як, напрыклад, А. Г. Сосін, Р. Л. Блюмен, сталі вядомымі прафесарамі, выкладчыкамі Ленінградскай кансерваторыі, маскоўскіх музычных вучылішч і інш. Але асабліва ганарацца магіляўчане тымі, хто амаль усё сваё працоўнае жыццё правёў у гарадской музычнай школе. Да іх ліку адносіцца ўзнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» дырэктар школы Л. М. Зысман, які працуе тут усе 35 год яе існавання; педагог па класу скрыпкі А. Ф. Еўстратаў, стаж працы якога ў школе 30 год; педагог па класу фартэпіяна А. Ф. Боркус, які працуе тут амаль столькі-ж; загадчык навучальнай часткі Л. А. Пляшчынская, якая таксама звыш 20 год працуе ў гэтай школе.

Разам з гэтымі старэйшымі педагогамі школы з поспехам тут працуюць яе былыя выхаванцы, а зараз, пасля заканчэння вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, яе выкладчыкі: І. Лушчыкаў, А. Манкевіч, С. Гурэвіч, Е. Долгін, Н. Мендзялеўская, В. Еўстратаў і інш.

Магілёўская музычная школа вызначаецца высокай паспяховасцю сваіх вучняў. Яна мае добра абсталяваныя класы, утульную канцэртную залу. Адных толькі раяляў і піяніна ў школе 27. Яе бібліятэка складаецца з 30 тысяч экземпляраў каштоўных нотных і кніжных выданняў. Трыццаць пяць выкладчыкаў школы працуюць у школе і ў яе двух філіялах у прамысловым раёне Магілёва і на чыгунцы. Яны займаюцца з больш чым чатырма сотнямі дзяцей рабочых, служачых, інтэлігентаў, ваеннаслужачых, калгаснікаў прыгараднага раёна горада. Школа сіламі выкладчыкаў і вучняў абслугоўвае канцэртамі агітпункты, выбарчыя ўчасткі, школы механізацыі сельскай гаспадаркі і іншыя ўстановы.



У Магілёўскай музыкальнай школе ідзе рэпетыцыя.

Поспехі Магілёўскай школы юных музыкантаў значныя. Аб гэтым сведчыць уся яе дзейнасць. Аб гэтым сведчыць Ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, якой за поспехі ўзнагароджана гэтая старэйшая ў рэспубліцы музычная навучальная ўстанова.

**І. НІСНЕВІЧ.**

## ЛЯСНЫ БАЛЕТ

У веснавым небе чарнее невялікі трохвугольнік, чуецца ўрачысты, пераможны птушыны крык. Гэта вяртаюцца ў родныя мясціны з выраю жураўлі.

Холад і голад прагналі іх увосень з нашых краёў, і жураўлі па спрадвечнаму шляху накіраваліся ў Афрыку. Там, у Нубіі або Абісініі, яны перачакалі зіму і з наступленнем вясны зноў вяртаюцца назад.

Маладыя жураўлі, таксама як і старыя, беспамылкова прылятаюць на тыя балоты, дзе яны раслі птушанятамі. У першы год свайго жыцця яны не будуюць гнёздаў, а, сабраўшыся ў невялікія групы, усё лета вандруюць з балота на балота. Толькі ў наступны год, разабраўшыся парамі, маладыя жураўлі пачынаюць гняздзіцца. Перад гняздоўем можна наглядаць цікавую з'яву — жураўліны танец, своеасаблівы лясны балет.

... У лесе яшчэ цёмна. Але вось на ўсходзе загарэлася барвовая палоска. Яна робіцца ўсё шырэй і шырэй, і нарэшце ўвесь усходні край небасхіла афарбоўваецца ў вогненны колер. І тады адразу з некалькіх месц чуюцца дзіўныя гукі: здаецца, невядомыя музыкі трубяць у срэбраныя трубы. Гэта сустракаюць новы дзень жураўлі. Сабраўшыся групамі на ўскраіне мохавага балота, жураўлі доўгімі нагамі «вытанцоўваюць» адзін перад другім.

Жураўліныя танцы — не што-небудзь іншае, як шлюбныя гульні, або тое, што паляўнічыя называюць такавішчам. Як вядома, такуюць глушцы, слонкі і іншыя птушкі. Але жураўлі такуюць па-свойму — яны танцуюць, нібы святкуюць свой зварот на радзіму.

Своеасаблівы лясны балет можна наглядаць таксама і надвячоркам.

У красавіку самка адкладае адно-тры яйкі, з якіх у пачатку мая выводзяцца маленькія жураўляняты. Растуць яны вельмі хутка: ужо на дванаццаты дзень кожны з іх важыць больш чым па 500 грамаў.

**Б. ГАЛАДУШКА.**

